Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 6 (4806) 13 лютага 2015 г.




Фота Кастуся Дробава

*Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч і намеснік кіраўніка Кітайскай дзяржаўнай адміністрацыі радыё, кіно і тэлебачання, намеснік кіраўніка дзяржаўнага ўпраўлення па справах аўтарскага права Янь Сяахунь урачыста адкрываюць кніжны форум.*

# Кніжныя масты сяброўства

**У сталіцы распачала працу XXII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Выставачны павільён «БелЭкспа» сёлета прымае рэкордную колькасць замежных гасцей: удзельнікамі кірмашу сталі выдаўцы і пісьменнікі з 28 краін. У якасці ганаровага госця форуму выступае Кітай, а Цэнтральным экспанентам стала Расія.**

Але не толькі новай прапіскай (выстаўка ўпершыню праходзіць у адміністрацыйным павільёне па праспекце Пераможцаў, 14) і колькасцю ўдзельнікаў значнае гэтае свята кнігі. Так, у межах кірмашу прайшоў I Міжнародны сімпозіум літаратараў «Пісьменнік і час», у якім удзельнічалі творцы з 16 краін. Арганізатарамі гэтай значнай культурнай падзеі сталі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюз пісьменнікаў Беларусі і Выдавецкі дом «Звязда». У дні форуму таксама адбылося ўзнагароджанне пераможцаў 54-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» па выніках працы ў 2014 годзе.

Ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця форуму ўзялі ўдзел шаноўныя госці: намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, міністр інфармацыі краіны Лілія Ананіч і намеснік кіраўніка Кітайскай дзяржаўнай адміністрацыі радыё, кіно і тэлебачання, намеснік кіраўніка дзяржаўнага ўпраўлення па справах аўтарскага права Янь Сяахунь. Шчырыя словы на адрас форуму і яго ўдзельнікаў у сваім прывітальным слове выказаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

Падчас выступлення Лілія Ананіч падкрэсліла:

— У гэтыя дні Мінск знаходзіцца ў цэнтры ўвагі сусветнай супольнасці. Тут адбываюцца значныя падзеі сусветнай палітыкі. А ў сценах выставачнага комплексу сабраліся кнігавыдаўцы з 28 краін, каб яшчэ раз падкрэсліць, што кніга заўсёды застаецца мастом сяброўства, мастом садружнасці. Нам вельмі прыемна, што сёлета ганаровым госцем кніжнага форуму стала краіна — наш стратэгічны партнёр — Кітайская Народная Рэспубліка. Якраз напярэдадні адкрыцця выстаўкі быў падпісаны мемарандум аб супрацоўніцтве паміж Галоўным дзяржаўным упраўленнем па справах прэсы, выдавецтваў, радыёвяшчання, кінематаграфіі Кітая і Міністэрствам інфармацыі Беларусі аб перакладзе і выданні класічных літаратурных твораў Кітая і Беларусі ў 2015 — 2020 гадах. Думаецца, гэтае міжнароднае пагадненне будзе садзейнічаць з'яўленню новых выдатных кніжных праектаў. Вельмі важная тэма кірмашу — 70-годдзе Вялікай Перамогі, якое будзем адзначаць сёлета. Многія імпрэзы ў праграме форуму прысвечаныя менавіта гэтай знакавай даце.

Чытайце на стар. 2 ▶




6 Рэха святочных салютаў



9 Стварацъ новую паэзію




13 Мода на графічны дызайн



15 Гісторыя сына палка



16 Летапіс творцы

# Кніжныя масты сяброўства

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Калі для аматараў добрай літаратуры кніжная выстаўка — сапраўднае свята, то для пісьменнікаў форум — няпросты экзамен. Менавіта такую думку выказаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. Ён зазначыў:

— Падчас кніжнага форуму пісьменнікі прадстаўляюць свае творы самай шырокай публіцы, а гэта вельмі складаная праца. Мы таксама маем магчымасць пабачыць вынікі творчай дзейнасці калег з іншых краін. Таму выстаўка заклікае аўтараў часцей быць самакрытычнымі, назіраць за поспехамі іншых аўтараў, старацца працаваць лепш. Вельмі важна, што сёлетні форум па адной з галоўных тэм сугучны з 70-годдзем Перамогі. Творы пра вайну сёння вельмі запатрабаваныя. 12 пісьменнікаў — сяброў нашага саюза важалі, і мы з задавальненнем прадстаўляем іх кнігі на стэндах.

Натуральна, яшчэ не ўсе важныя выставачныя імпрэзы адбыліся, але ўжо цяпер можна зрабіць некаторыя высновы, вылучыць самыя адметныя рысы кніжнай выстаўкі. Звернемся спачатку да стэнда Ганаровага госця форуму — Кітая. Перадусім уражвае маштаб прадстаўлення кнігавыдання краіны: на плошчы ў 400 квадратных метраў змясцілася 5 тысяч выданняў. Звярнулі ўвагу арганізатары і на кніжную культуру, старажытнае мастацтва вырабу паперы. Так, проста на вачах наведвальнікаў майстар-графік аддрукоўваў копіі «Карты чатырох прыгажунь» — самай ранняй сярод існуючых дэкаратыўных гравюр Кітая. Яна была надрукавана ў XII стагоддзі, а не так даўно Кітайскі музей паліграфіі ўзнавіў друкавальную дошку з выкарыстаннем драўніны старажытнай дзікай грушы і тэхналогіі ручнога гравіравання. Адметна, што пры аддрукоўцы тушшу новых копій гравюры выкарыстоўваецца і спецыяльная «тысячагадовая папера», выробленая па тэхналогіі 2000-гадовай даўніны. Яна мяккая і гнуткая, не псуецца нават пасля складвання.

У ліку важных рыс форуму — і актыўнае выкарыстанне тэхнічных сродкаў. Так, на некаторых стэндах можна пабачыць кніжныя інфакіёскі, паглядзець ролікі на экране ці сфатаграфавацца з папулярным героем кнігі. Для таго каб перанесці чытача ў свет кніг, выкарыстоўваюцца і незвычайныя прадметы. Так, Замкавы комплекс «Мір» на сваім стэндзе дае магчымасць зазірнуць у Сярэднявечча — пабачыць сапраўдны шлем рыцара.

Гэта далёка не ўсе цікавосткі кірмашу. Выставачныя імпрэзы працягваюцца да 15 лютага, а ўваход на кніжны кірмаш бясплатны. Спяшайцеся!

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Фотапозірк



*Фота Кастуся Дробава*

**Дэлегацыя пісьменнікаў, гасцей XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, падчас форуму наведала Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.**

# Сустрэча з кітайскімі пісьменнікамі

**Напярэдадні адкрыцця XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбылася сустрэча з пісьменнікамі краіны ганаровага госця — Кітайскай Народнай Рэспублікі. А Лай, Сі Чуань, Лаа Ма і Сю Цзэчэнь распавялі пра першыя ўражанні ад краіны і адказалі на шэраг пытанняў пра сучаснае жыццё Кітая — літаратурнае і не толькі.**



*Фота Кастуся Дробава*

*Кітайскія пісьменнікі (злева направа): Сі Чуань, Сю Цзэчэнь, А Лай, Лаа Ма.*

Так, А Лай адзначыў, што перад прыездам у Беларусь мала ведаў беларускую літаратуру, але з творчасцю Васіля Быкава знаёмы добра. Увогуле, падчас існавання СССР кітайскія чытачы вельмі цікавіліся савецкай літаратурай, і яна моцна паўплывала на развіццё кітайскай, але ў гэтым сёння бачацца і мінусы: цяпер складана размежаваць літаратуры паводле «нацыянальнасці».

Сі Чуань як паэт зацікаўлены паэзіяй Беларусі і перакладам лепшых — і найцікавейшых — яе ўзораў на кітайскую мову.

Збольшага сучасныя кітайскія пісьменнікі пішуць пра жыццё сучаснага грамадства. Самы малады пісьменнік з кітайскай дэлегацыі Сю Цзэчэнь з'яўляецца аўтарам рамана пра моладзь пакалення 1990-х. Як ён патлумачыў, за апошнія трыццаць гадоў Кітай змяніўся вельмі моцна, праз што паміж пакаленнямі ўзнікае шмат непаразуменняў, і тэма моладзі набывае асаблівае значэнне.

Драматычны тэатр у Кітаі знаходзіцца пад уплывам Захаду, ставяцца пераважна заходнееўрапейскія п'есы. Тэатраў у Пекіне вельмі шмат, хоць сам горад невялікі. Моладзь актыўна піша п'есы і сама іх ставіць, так што моладзевы тэатр развіваецца бурна. Але опера ўсё адно карыстаецца большай папулярнасцю.

Сучаснае кітайскае кіно часта грунтуецца на літаратурным матэрыяле. А Лай распавёў, што і яго творы не раз рабіліся асновай для кінакарцін і тэлесерыялаў.

Пра стасункі крытыкаў і пісьменнікаў нашыя госці сказалі толькі, што адносіны гэтыя могуць быць як цёплыя, так і не вельмі, і сярод крытыкаў у пісьменнікаў бываюць і сябры, і ворагі. Самі аўтары часта пішуць рэцэнзіі на творы сваіх калег — аднак рэцэнзіі гэтыя звычайна адрозніваюцца большай мяккасцю і спагадлівасцю.

Што да ўражанняў ад Беларусі, самым першым і самым моцным стаў мароз. Наступнае — прыгажосць Мінска. Пры тым, што многае нагадвае пра СССР, Мінск успрымаецца выключна як беларускі горад.

Пагаварыўшы пра славутыя мясціны Беларусі, госці прыгадалі Брэсцкую крэпасць, гісторыя якой у Кітаі шырока вядомая (многія бачылі пра яе фільм). У адказ яны параілі наведаць Пекін, але папярэдзілі, што людзей там даволі многа.

Як вядома, на выстаўцы падпісаны Мемарандум пра супрацоўніцтва ў галіне перакладу і выдання класічных літаратурных твораў Кітая і Беларусі, на які кітайскія пісьменнікі ўжо цяпер ускладаюць вялікія надзеі. Таксама яны выказалі спадзяванне на шырокія знаёмствы з беларускімі выдаўцамі.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Кансерватары і хуліганы



Напэўна, супрацоўнікі рэдакцыі кожнага літаратурна-мастацкага выдання мараць, каб іх газета ці часопіс мелі значную вагу ў свеце пісьменнікаў і чытачоў. Змяніць сістэму прысуджэння прэміі, паўплываць на папулярнасць кнігі, быць камертонам густу… Мары? Ды не. Я зараз назаву выданне, праца якога, нават ва ўмовах панавання рынку, можа лічыцца ўзорнай, а ўплыў на чытача — амаль неверагодным. Гэта «Литературная газета». Пра добрую і кепскую літаратуру, кансерватызм і хуліганства на газетных палосах, а таксама пра тое, чаму небяспечна чытаць дрэнныя кнігі, мы гутарым з галоўным рэдактарам гэтага ўжо амаль легендарнага выдання, пісьменнікам Юрыем Паляковым. Адметна, што Юрый Міхайлавіч — госць XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

**— А ці можна ўсё ж упэўнена сцвярджаць, што «Литературная газета» ўплывае на густы чытачоў? І ў цэлым, хто ваш чытач?**

— Мы вельмі моцна ўплываем на густы, бо наша выданне адрасаванае перадусім чытачам філалагічных, гуманітарных прафесій. Нас чытаюць настаўнікі, выкладчыкі ВНУ, журналісты, якія працуюць з гуманітарнай тэматыкай, мастацтвазнаўцы. Таму тыя ідэі, думкі, ацэнкі, што мы даём, рэтранслююцца вельмі шырока. Мне часам кажуць, што наш наклад — няпоўныя сто тысяч, а ў газеты «Московский комсомолец» — паўмільёна, я пагаджаюся. Але справа ў іншым. Калі мы публікуем артыкул, дзе прапануем новы погляд на гістарычную падзею ці новае прачытанне літаратурнага твора, то гэтую думку праз выкладчыкаў, журналістаў, якія нас чытаюць, будуць ведаць некалькі мільёнаў чытачоў — ужо іх студэнтаў, вучняў. А калі студэнт прачытае нешта пра Філіпа Кіркорава ў папулярнай газеце, каму ён пойдзе пра гэта расказваць? Нікому. Думкамі пра нашы артыкулы можна смела дзяліцца. Мы ўплываем і на запатрабаванасць кніг: тыя выданні, на якія мы змяшчаем рэцэнзіі, выклікаюць цікавасць, і наадварот: тэксты, апублікаваныя ў рубрыцы «Литпрозектор», дзе мы распавядаем пра кнігі — лаўрэаты розных прэмій, даём ім аб'ектыўную ацэнку, могуць значна пахіснуць поспех выдання.

**— Якія крытэрыі добрай літаратуры вы прывіваеце чытачу? Якая літаратура для вас безумоўна добрая?**

— Справа ў тым, што ва ўсіх відаў дзейнасці ёсць пэўны прафесійны канон. Я заўсёды прыводжу такі прыклад: калі ў вас няма голасу, вы спяваеце ў сям'і за сталом. Гэта нармальна! Так, я таксама спяваю. Але калі вы з такім жа голасам хочаце выйсці на сцэну Вялікага тэатра? Гэта ж смешна! У оперы гэта разумеюць, а ў літаратуры — не. Існуе такое паняцце, як «літаратурны талент», якое ўключае тры складнікі: вербальную адчувальнасць (гэта як у спевака слых і голас: калі чалавек не адчувае семантыку слова лепш, чым многія, ён не можа быць пісьменнікам); сацыяльную адчувальнасць і маральную адчувальнасць. Праблема сучаснай літаратуры заключаецца ў тым, што яе ствараюць людзі, якія не маюць такіх здольнасцей. Калі ў оперы і балеце пры адсутнасці неабходных уменняў чалавека нават на сцэну не выпусцяць, то ў літаратуры такі аўтар да публікі выходзіць.

Чытайце на стар. 10 ▶

# Пад цёплы вечар

Вечарына «Метэазводка: вецер усходне-заходні», прысвечаная творчасці аўтараў інтэрнэт-партала Textura.by, галоўны рэдактар якога — Андрэй Фаміцкі, адбылася ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі.

Назва імпрэзы сімвалічная: тут прадставілі сваю творчасць паэты з Масквы, Мінска і Брэста: Уладзімір Глазаў, Віктар Жыбуль, Алесь Емяльянаў-Шыловіч, Ірына Карэніна, Яўген Бясчасны і спецыяльны госць з Масквы Андрэй Пермякоў. Кожнага з іх вылучае адметны творчы почырк, манера пісьма.

Уладзімір Глазаў — супрацоўнік рэдакцыі газеты «Брестский курьер», аўтар паэтычнай кнігі «Час уласны» (2013). Яўген Бясчасны — ураджэнец Севастопаля, цяпер жыве ў Брэсце. Выпускнік брэсцкага ліцэя № 1 імя А. С. Пушкіна, студэнт МДЛУ. Віктар Жыбуль — паэт, перакладчык, аўтар шэрагу паэтычных зборнікаў. Алесь Емяльянаў-Шыловіч — аўтар паэтычнага зборніка «Парасонечнасць». Ірына Карэніна — выпускніца маскоўскага Літінстытута імя М. Горкага, паэтэса, публіцыст, сябар Саюза пісьменнікаў Расіі ды Саюза журналістаў Расіі, аўтар 6 кніг вершаў. Андрэй Пермякоў — выпускнік Пермскай дзяржаўнай медыцынскай акадэміі, паэт, празаік, літаратурны крытык, аўтар кнігі вершаў «Сусьедняя вобласть» (Санкт-Пецярбург, 2013).

«Вецер усходне-заходні» ў гэты зімовы вечар быў лёгкім, цёплым і натхняльным. Галоўную задачу партала Textura.by — стварыць крэатыўнае асяроддзе, неабходнае аўтарам як паветра, — падчас імпрэзы атрымалася выканаць на ўсе сто!

**Яна ЯВІЧ**

# Шчырая песня

Ужо другі год на базе сталічнай публічнай бібліятэкі № 22 працуе літаратурны клуб «Шчырасць», у межах якога адбываюцца сустрэчы з пісьменнікамі і дзеячамі мастацтва.

Гэтым разам гасцямі свята дзіцячай кнігі «Святло дабрыні» сталі старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт Міхась Пазнякоў ды астравецкі кампазітар і выканаўца, член Беларускага саюза музычных дзеячаў Аляксандр Якіменка.

На імпрэзу завіталі настаўнікі і навучэнцы пачатковых класаў сярэдніх школ № 25 і 161. Юныя чытачы пабачылі экспазіцыю кніг Міхася Пазнякова, пачулі расповед творцы пра сваю радзіму, любоў да роднай мовы, яго вершы і казкі. Школьнікі разгадвалі загадкі і атрымлівалі прызы ад аўтара.

Аляксандр Якіменка выконваў песні на словы Міхася Пазнякова: «Мяцеліца», «Артысты», «Матчына хата» ды інш. А Міхась Паўлавіч з задавальненнем паслухаў песню «Васільковае неба» ў выкананні вучаніцы 8 «В» класа СШ № 161, лаўрэата міжнародных конкурсаў вакалістаў і леташняга гарадскога конкурсу «Маладыя галасы» Наталлі Кебікавай.

**Наталля ЯРАШЭВІЧ**

# Вярнуцца ў юнацтва

Днямі сябры, родныя, калегі віншавалі з юбілеем пісьменніка і журналіста Славаміра Антановіча. Лейтматывам святочнага вечара сталі ўспаміны пра незабыўныя гады юнацтва і маладосці творцы.

Славаміру Валяр'янавічу была ўручана вышэйшая ўзнагарода Саюза пісьменнікаў Беларусі — медаль «За вялікі ўклад у літаратуру». Да віншаванняў далучыліся пісьменнікі Наталія Касцючэнка, Іна Фралова, Андрэй Скарынкін, які выканаў некалькі песень на словы класікаў беларускай паэзіі.

У выкананні ўдзельніцы літаратурнага гуртка «Малінаўскія галасы» Маі Корсак прагучалі ўрывак з рамана «Чорны вір Нёмана» і лірычныя вершы з кнігі С. Антановіча «Вяртанне ў юнацтва». Свята аздобіла музыка ў выкананні цымбалістаў узорнага ансамбля «Калейдаскоп» сталічнай школы № 159.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Помнім герояў сваіх

Творчая сустрэча сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Юрася Нератка (Юрыя Гарбачова) з членамі літаб'яднання «Натхненне» адбылася ў барысаўскім Палацы культуры.

Цяпер «натхненцы» рыхтуюць калектыўны зборнік вершаў да 70-годдзя Вялікай Перамогі. Укладальнік кнігі — Анатоль Мазгоў, рэдактар — Юрась Нератoк.

Падчас сустрэчы спадар Юрась правёў майстар-клас для членаў літаб'яднання, чытаў уласныя творы, свае вершы прадставілі і «натхненцы».

Шмат твораў у зборніку прысвечана героям Барысава і Барысаўшчыны, людзям, імёнамі якіх названы вуліцы горада. Блок вершаў Людмілы Малчанскай — «кніжачка ў кнізе», паводле выразу Юрася Нератка, — вялікая і адказная праца з музейнымі архіўнымі матэрыяламі. І ўсё дзеля таго, каб нашы нашчадкі ніколі не забываліся пра кошт Перамогі.

**Лёля БАГДАНОВІЧ,**
**старшыня літаб'яднання «Натхненне».**

# «Сіндром» мастацтва

Легенда беларускага тэатральнага мастацтва, народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі, які ўвасобіў на сцэне і экране больш чым дзве сотні глыбокіх і яркіх вобразаў, стаў кумірам гледачоў, кінакрытыкаў і рэжысёраў, адзначыў 5 лютага сваё 85-годдзе. Юбілейны вечар прайшоў у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага, дзе акцёр праслужыў амаль шэсцьдзясят гадоў — і да гэтага часу яго імя можна ўбачыць у рэпертуары!

Гледачоў чакаў не чарговы спектакль, а шчыры маналог акцёра — струмень яго ўспамінаў. Расціслаў Янкоўскі падзяліўся абсалютна рознымі і вельмі цікавымі гісторыямі з жыцця — да слёз вясёлымі і крыху сумнымі. Словы артыста гучалі не толькі са сцэны, але і з архіўных відэаматэрыялаў — урыўкаў спектакляў, фільмаў, выступаў. Калектыў тэатра падрыхтаваў да юбілею пацешныя сцэнкі, дыялогі і музычныя замалёўкі, што стварыла святочную атмасферу.

«Аднойчы, падчас гастроляў адной Карагандзінскай трупы, я зайшоў за кулісы — і ўразіўся раздвоенасці, якая панавала там і на сцэне. Менавіта яна зрабіла на мяне, будучага акцёра, каласальнае ўражанне», — распавёў Расціслаў Янкоўскі. Адразу ж ён успомніў і свой акцёрскі дэбют, які адбыўся яшчэ ў школьныя гады — ролю маладога цыгана. «Сіндром мастацтва ў мяне быў з дзяцінства. Але калі б не стаў акцёрам, то быў бы... хірургам!» — прызнаўся мэтр.

З асаблівай цеплынёй расказваў творца пра Адэсу, дзе нарадзіўся, і той час, калі яго выхоўвала амаль адна бабуля, цудоўная жанчына, якая ўвесь час насіла пенснэ, часта размаўляла па-французску, вадзіла хлопчыка ў касцёл.

З днём нараджэння юбіляра павіншаваў Прэзідэнт Беларусі. Яго ліст падчас юбілейнага вечара зачытаў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Ігар Бузоўскі: «За доўгія гады плённай працы Вы ўнеслі значны ўклад у скарбніцу духоўных каштоўнасцей беларускага народа, вызначылі напрамкі развіцця нацыянальнай культуры. Ваша прыхільнасць высокім маральным ідэалам, гэтак неабходным у сучасным, хутка зменлівым свеце, самааддане служэнне любімай справе з'яўляюцца арыенцірам для маладых артыстаў».

Прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў у звароце да народнага артыста падкрэсліў, што «гледачы цэняць яго як вялікага майстра, які валодае рэдкім акцёрскім дарам і асабістым абаяннем — якасцямі, уласцівымі ўсёй дынастыі Янкоўскіх». Намеснік Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу нашай краіны Анатоль Русецкі, у сваю чаргу, паднёс Расціславу Янкоўскаму найкаштоўнейшы падарунак — слуцкі пояс.

Цёплыя словы ў адрас юбіляра прагучалі таксама з вуснаў міністра культуры Беларусі Барыса Святлова, намесніка старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта Ігара Карпенкі.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Аляксандр Сурыкаў назваў Расціслава Янкоўскага лекарам чалавечых душ і апорай культурнага моста паміж брацкімі народамі Расіі і Беларусі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# ЛіМ-каляндар

4 лютага — 500 гадоў з дня нараджэння Мікалая Радзівіла (мянушка Чорны; 1515, Нясвіж — 1565), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ.

5 лютага — 85 гадоў з дня нараджэння Расціслава Янкоўскага, акцёра тэатра і кіно, народнага артыста Беларусі і СССР.

5 лютага — 80 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Чэрніка, паэта, педагога.

6 лютага — 65 гадоў з дня нараджэння Мікалая Гуршчанкова, мастака ў вобласці станковай графікі і жывапісу.

7 лютага — 65 гадоў з дня нараджэння Сяргея Трахімёнка, пісьменніка, сцэнарыста.

8 лютага — 205 гадоў з дня нараджэння мастака Івана Хруцкага (1810, г. п. Ула, Бешанковіцкі р-н, Віцебская вобл. — 1885).

11 лютага — 80 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Міколы Кусянкова.

12 лютага — 125 гадоў з дня нараджэння Казіміра Сваяка (1890, Астравецкі р-н, Гродзенская вобл. — 1926), пісьменніка, рэлігійнага і грамадскага дзеяча.

13 лютага — 310 гадоў з дня нараджэння Францішкі Уршулі Радзівіл. (1705 — 1753), першай жанчыны-драматурга ў ВКЛ, заснавальніцы Нясвіжскага тэатра Радзівілаў.

16 лютага — 90 гадоў з дня нараджэння Івана Навуменкі (1925, Васілевічы, Рэчыцкі р-н, Гомельская вобл. — 2006), народнага пісьменніка Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

18 лютага — 100 гадоў з дня нараджэння Рыгора Ганцэвіча, мастака, карыкатурыста.

18 лютага — 80 гадоў з дня нараджэння кампазітара Сяргея Картэса, народнага артыста Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

19 лютага — 100 гадоў з дня нараджэння паэта Анатоля Бярозкі.

20 лютага — 70 гадоў з дня нараджэння пісьменніцы Таісы Бондар (1945, г. п. Рудзенск, Пухавіцкі р-н, Мінская вобл. — 2005).

24 лютага — 80 гадоў з дня нараджэння Рыгора Барадуліна (1935, Ушацкі р-н, Віцебская вобл. — 2014), народнага паэта Беларусі.

25 лютага — 95 гадоў з дня нараджэння паэта Пятра Прыходзькі (1920, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл. — 2006).

26 лютага — 210 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Здановіча (1805 ці 1808, Ігуменскі пав., Мінская губ. — 1868), гісторыка, пісьменніка, педагога, члена Віленскай археалагічнай камісіі.

27 лютага — 80 гадоў з дня нараджэння мовазнаўцы Фёдара Клімчука, аўтара прац па беларускай дыялекталогіі, лінгвагеаграфіі, сацыялінгвістыцы, анамастыцы, фальклору.

28 лютага — 75 гадоў з дня нараджэння Марата Клімава, мастака ў вобласці манументальна-дэкаратыўнага і станковага жывапісу.

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**13, 14 і 15 лютага** — *на творчыя сустрэчы з пісьменнікамі аддзялення і прэзентацыі кніг у межах XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу (пр. Пераможцаў, 14). Пачатак — у 10:00.*

**13 лютага** — *на прэзентацыю сумеснай кнігі вершаў беларускіх і санкт-пецярбургскіх паэтаў «Неделимое русло». Імпрэза адбудзецца ў Доме дружбы (вул. Захарава, 28). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**14 лютага** — *у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» пры інтэрнаце № 8 (вул. Карбышава, 42) на тэатральную пастаноўку паводле вершаў Анастасіі Кузьмічовай. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**16 лютага** — *у літаратурную гасцёўню «Пад белымі крыламі» пры гімназіі-каледжы імя І. В. Ахрэмчыка (вул. Макаёнка, 14) на прэзентацыю фільма «Спакушэнне» паводле твораў празаіка Сяргея Трахімёнка. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**16 лютага** — *у літаратурна-дыскусійны клуб «Творчая пляцоўка» пры дзіцячай бібліятэцы № 1 (вул. Гарадскі вал, 3). Пачатак у 17:30.*

**18 лютага** — *на міжнароднае паэтычнае свята «У лучнасці братняй». Мерапрыемства пройдзе ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**18 лютага** — *у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на літаратурнае свята «Гонар — служыць Радзіме», прысвечанае Дню абаронцаў Айчыны. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**14 лютага** — *на літаратурнае свята «Роднаму краю песню спяваю», прысвечанае 20-годдзю працы народнага літаб'яднання «Рунь» пры Валожынскім РЦК. Месца правядзення мерапрыемства: г. Валожын, пл. Свабоды, 5. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**15 лютага** — *на святочнае мерапрыемства ў Палацы культуры г. Маладзечна (Цэнтральная плошча, 4) «Любоў нябёсы над табой трымае» з удзелам харэаграфічных калектываў і творчых людзей Міншчыны. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**18 лютага** — *на выстаўку, прысвечаную 235-годдзю з дня нараджэння Аляксея Гаўрылавіча Венецыянава (1780 — 1847), рускага мастака. Месца правядзення: Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна, аддзел літаратуры па мастацтве (г. Мінск, вул. Гікала, 4).*

Алёна ПАПКО



***

Каго паклічу ў госці
да сябе,
Каго ў дарогу-далячынь
збіраю.
Віхуры намяце-перамяце
І чыстым снегам
плечы ахіне
Зіма…
З яе дыханнем цёплым
ачуняю.

І не ў даўгу цяпер ні перад кім —
Нягоды-бальшакі і нашы святы.
Сняжынак густа-срэбраны кілім,
Да дна дап'ём кахання успамін.
Зіма…
Хто з нас застаўся вінаваты?

Услед гляджу — не клічу болей,
Не…
За пасівелай снежнаю вярстою —
Мне б капяжынку шчасця па вясне,
І сонца цёплага над галавою.

***

І ў россып зорнага святла —
Рабі наперад крок бясспрэчна.
Каб расказаць, як я жыла,
Мне хопіць верша.

Як плён няспеленых гадоў,
З якой вясны ізноўку разам?
Каб выказаць сваю любоў,
Зашмат мне сказа.

Святлеюць ночы, як і дні,
Жывой размовай.
Лунаць бясстрашна ў вышыні, —
Мне досыць слова.

І спорным дождыкам у сне —
Адно з жаданняў:
Пачуць бы роднага цябе
Ў працяглай маўчання!

## Грамніцы

Абрус святочны, што зімы радкі,
І навальніцы злёгку адшумелі.
…А мы ўсё палім свечкі
ў цішыні
Грамнічныя — у пошуках надзеі.

Усім даспадобы ранняе цяпло,
Мяцеліцы суцішаныя крылы.
А мы сумуем, гледзячы
праз шкло,
Як нашай веры растаюць
кілімы.

І п'е вясковы певень
не з вядра —
Сцюдзёную капежную вадзіцу.
А мы ў нябёсы чыстыя штодня
Каханне адпускаем,
як сініцу.

...Абрус святочны,
што зімы радкі,
І навальніцы злёгку адшумелі.
Мы больш не палім свечкі ў цішыні —
Грамніцы,
як імгненне,
праляцелі.

Аляксандр АСТАШЭВІЧ



***

Мяне ўзяла замкнула
з цішынёй.
Сама сышла з кватэры,
як звычайна.
Я нібы ў клетцы звер.
А за сцяной
Сабачанё павісквае
адчайна.

Маўчу зацята.
Проста смех
і грэх, —
Навёў на чаравіках зыркі
глянец.
Няўжо мяне замкнула,
каб не збег,
Не мог ні на адну красуню
глянуць.

Характар маеш.
Цвёрдую руку.
Аблічам ты падобна
да іконы.
Я ж не прывык на ўсім сваім вяку
Ні кланяцца, ні дагаджаць нікому...

Звысоку на прахожых не глядзеў.
Не ведаўся з пыхліваю гардыняй.
Ты ўважлівай бываеш да людзей,
Чаму ж не станеш
рупнай гаспадыняй?

За шыбінай сініца прамільгне,
Асепленая снегу белізною.
А можа, трэба завішчэць і мне,
Як цюцьку за суседскаю сцяною?

Мароз трашчыць,
бы колаты арэх,
Не страшны ён табе,
скажу адразу,
Пакуль на пальцы
носіш абярэг,
Пярсцёнак мой з агатам
і алмазам.

З двара не зводжу і на міг вачэй,
Дзе снег ідзе і горбяцца сумёты.
Прашу: вярніся ў хату,
як хутчэй,
Дзе мне не па сабе
ад адзіноты!

## Фантазія

Мы кожны вечар, юная сяброўка,
З табою гаварылі пра вандроўку,
Даўгое падарожжа кругасветнае,
Што будзе пачуццём любві асветлена.
Як хораша было б пад зззяннем зор
Наведаць нам Па-дэ-кале, Басфор.
Над затанулых караблёў ламаччам
Прайсціся на баркасе па Ламаншы.
Пабачыць скандынаўскія фіёрды,
Дзе скалы устаюць, нібыта лорды
Падчас падзеі важнай, юбілею
Ды льюць ялею цэлыя балеі.
І варта б заглянуць у Амстэрдам,
З манументальных падзівіцца дам,
Што ездзяць і вандруюць, як турысты,
І не забылі гэты край вятрысты.
Магчыма, пабывалі б і ў Калумбіі.
І, калі сонца стане днём у дуб,
Палюбаваліся б гарамі, клумбамі,
Што ўзяў і дзеля нас адкрыў Калумб.

Трапечуць крыльцы
у акне пчалы.
І разлілося мроіва,
як дрожджы.
Схадзіўшы ў ЗАГС,
з табою пачалі
Вясельнае,
урэшце,
падарожжа.

**Пераклад з рускай мовы Васіля МАКАРЭВІЧА**

Дзмітрый ПЯТРОВІЧ



***

Каханне першае — нібыта першы снег.
Бялюткі неруш можа
упрыгожыць
Будзённасць вечную —
і гэты жорсткі свет
Адразу страціць чорную варожасць.

І знікнуць межы часу й дабрыні —
Замест гадзінніка тады лічыць імгненні
Нам будзе сэрца.
І здадуцца дні
Гадамі… А гады —
нібыта цені:

Нябачна постаць іх, і не чуваць іх бег…
І, як раней, я сёння зноў успомню
Каханне першае, нібыта першы снег,
І подых шчасця прывідна-няўлоўны…

***

У летні ранак
зазірнула восень.
У гэтым суме —
я і цішыня.
Яе гучанне
мне спакой прыносіць.
І толькі дождж,
бы голас ручая,
Аб незастылым
нагадае часе,
Як мрояцца
хвілінамі гады
І што калісьці
гэта восень згасне
Ў зімовай белі
вечнай нематы…

***

Запознены смак кахання...
У снах ён цяпер жыве,
Пасля растае уранні,
Як слёзы расы ў траве.

Запознены смак кахання.
У сэрцы баліць яно
Бязлітасным нечаканнем,
Хоць моцнае, як віно.

Запознены смак кахання
На вуснах адчую зноў —
Спадуць кайданы расстання,
Я вырвуся з болю сноў…



Фота Кастуся Дробава

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# Шалёная любоў



Раней, памятаю, я любіў кнігі звычайна, як і ўсе людзі. Вяртаўся вечарам са свайго трэста, клаўся на канапу, працягваў руку да этажэркі, што зусім побач стаяла, і навобмацак выбіраў патрэбную кніжку. Ведаў: тут стаіць «Коннік без галавы», тут «Анна Карэніна», тут «Спартак», тут «Абрыў»… Адным словам, ведаў іх па карэньчыках.

Потым з невялічкай этажэркі на палічку ўзбіўся. Кніг у мяне пабольшала, але памыліцца ў іх, як і раней, я не мог.

А неўзабаве пачалася ў мяне неверагодная, нейкая шалёная любоў да гэтых кніг. І пачалася з новай кватэры, з нашай сённяшняй двухпакаёўкі, якую трэст нам выдзеліў. Я кажу «нам», бо разам з жонкаю ў ім працавалі.

Дык вось: атрымалі мы кватэру, пераехалі са свайго пакойчыка, агледзеліся, дываны паслалі, сёетое з мэблі прыдбалі. Сядзім аднаго разу, маракуем, што б яшчэ ў гасцінай паставіць. І раптам жонка кажа:

— Ты хто?

— Як хто? — дзіўлюся. — Чалавек.

— Кім працуеш?

— Гм… Хіба сама не ведаеш? — яшчэ больш здзіўлюся я. — Бухгалтарам-эканамістам…

— Ты адукаваны чалавек, культурны? — з нейкімі суровымі ноткамі ў голасе працягвала дапытваць мяне жонка.

— Мабыць, адукаваны, — адказваю, — калі інстытут канчаў, дыплом маю… Дарэчы, чырвоны, з адзнакай, не тое, што ў цябе…

Але жонка нібы не слухае мяне, далей хіліць:

— Быў у кватэры ў Прышывалкаў, бачыў, што адразу кідаецца ў вочы, як зойдзеш да іх?

— Ну, бачыў… Ласіныя рогі…

— Во, тумкала бязрогае, — лёгенька пастукала мне жонка ў цемя. — Кніжная секцыя з бібліятэкай сусветнай класікі… А ты — рогі! І рогі ёсць, калі на тое пайшло, адразу бачыш — ад моды не адстаюць… А ў нас што? Дзе відаць, што тут культурная, адукаваная сям'я жыве? Няма на чым воку спыніцца…

— Дык, можа, мне свой дыплом у рамачцы на сцяне павесіць? — пажартаваў я. — І твой заадно…

— Хопіць кепікі строіць! — абарвала мяне жонка і рашуча падвяла рысу пад нашаю гаворкаю. — Заўтра ж пайду дамаўляцца наконт секцыі.

Спрабаваў я запярэчыць: маўляў, і той паліцы, што ёсць, хопіць. Ды дзе там! І слухаць не захацела!

Не ведаю, з кім яна дамаўлялася, але недзе праз месяц кніжная секцыя ўжо стаяла ў нас. Паўстала пытанне: чым запоўніць?

— Можа б, з суседам перамовіўся? — падказала жонка. — У яго ж столькі розных кніжак назбіралася. Цэлымі грудамі па пакоі, мусіць, параскіданы. Няхай бы ў нас расставіў іх, часова, пакуль на свае разжывёмся… Схадзі, пагавары…

Мой сусед — халасцяк, кандыдат навук. Якіх — добра не ведаю. Адно ведаў: у педінстытуце лекцыі чытаў, заўсёды з такім во пузатым скураным хадзіў…

Пайшоў я вечарком да Івана Змітравіча. Пасядзелі трохі, пагаварылі, потым я, акінуўшы позіркам не дужа прыгледжаны халасцяцкі пакой, стосы літаратуры на стале, канапе, нават на падлозе, нібы між іншым сказаў:

— А кнігі, як і ўсе рэчы, парадак любяць… Можа б, вы… — і выказаў сваю прапанову. А каб той не падумаў нічога кепскага, заспакоіў: — Не бойцеся, у нас ніхто іх і пальцам не кране. Сынок вялікі ўжо, дзевяцікласнік, як самі бачылі. Ён і раней да кніжак ніякай ахвоты не меў, а цяпер нават глядзець у той бок не хоча — мы нядаўна яму гітару купілі. Ну, можа, я калі часам з цікавасці якую ў рукі вазьму, дык даруйце ўжо…

— Што вы, што вы, дзякую за клопат, — адразу ж пачаў аднеквацца сусед. — Мне ж трэба, каб усе кнігі пад рукой былі. Я ж працую з імі… Калі часам спатрэбіцца якая, не буду ж я вас сярод ночы турбаваць… Дзякую, шчыра дзякую, — яшчэ раз ветліва ўсміхнуўся Іван Змітравіч.



Фота Кастуся Дробава

— Як сабе хочаце, — згадзіўся я, а сам падумаў чамусьці: «Ну, пацук няшчасны, не хочаш суседа выручаць, не хочаш дапамагчы яму часова акультурыцца!..»

Давялося спешным парадкам самому ўключацца ў паляванне на кнігі. Спешным, бо вы маёй жонкі не ведаеце… І, трэба сказаць, мне адразу пашанцавала.

На Серабранцы, у новай кнігарні, вялікай такой, прасторнай, куды яшчэ не ўсе кнігалюбы дапялі, нарваўся я на матэматычныя слоўнікі. Чулі пра такія, бачылі ў каго іх?.. Дык вось, паглядзеў я на шыкоўныя карэньчыкі і адразу трыццаць штук абярэмкам узяў. Маладзенькая прадаўшчыца заўпарцілася, на дыбкі стала: «Не можам усе ў адны рукі, не маем права. А што іншыя пакупнікі скажуць? Гэта ж — дэфіцыт!..»

Давялося выкручвацца, хлусіць.

— Разумееце, я сам матэматык, — кажу ёй, — працую ў школе з матэматычным ухілам. Я не аднаму сабе, на ўсю школу бяру… Хочаце, я магу даведку прывезці… Праўда, далекавата ехаць, але…

— Навошта ж ездзіць, бярыце ўжо, — нават неяк спачувальна зірнула на мяне прадаўшчыца. — Як вы давезяце іх? Хіба таксі закажаце…

Гэтымі матэматычнымі слоўнікамі я ўсю верхнюю паліцу ў секцыі заставіў, аздобіў яе. Цуд атрымаўся — вачэй не адвесці!..

З часам, неяк непрыкметна для самога сябе, я зрабіўся заўзятым кнігалюбам. Мне пачала падабацца гонка за рэдкімі выданнямі, набываць іх для сваёй бібліятэкі. Праўда, кнігі я, як ні дзіўна, чытаць перастаў, нават у кіно хадзіць кінуў. А калі ж іх чытаць ды ў тое кіно швэндацца? Усенькія выхадныя дні, што выпадалі мне, я прастойваў у чарзе ля магазіна падпісных выданняў (кніжны бум быў — не прывядзі Гасподзь!), а ў звычайныя, ледзь дачакаўшыся канца работы, гойсаў па мікрараёнах, цікавіўся, вынюхваў, дзе новая кнігарня адчыніцца, каб патрэбны для секцыі томік упаляваць. А што рабіць было? Трэба ж было неяк выкручвацца: неўзабаве жонка, каб парадаваць мяне падарункам да дня нараджэння, яшчэ адзін кніжны гарнітур купіла. Думаеце, так сабе: захацела і купіла? Не-е-е, з пераплатай ды праз знаёмку сваю ў мэблевым магазіне! Не той час быў, каб за свае грошыкі патрэбнай рэччу мог па сваім хаценні атаварыцца! Не той час быў, не той, што цяпер…

Прызнаюся, яе шыкоўны падарунак не надта ўсцешыў мяне, але ж… Пабурчаў, пабурчаў, ды змірыўся. Не перажываў дужа, бо грэла мяне адна патаемная думка: няхай сын, бэйбус патлаты, да кніг і чытання не падкі, у музыку ўдарыўся, дык некалі ж унукі будуць. Яны, можа, не ў бацьку свайго ўдадуцца, будуць цікавіцца кнігамі, і для іх мая бібліятэка — проста казачнай знаходкай будзе. Калі што спатрэбіцца пачытаць — не давядзецца ў гарадскую бібліятэку сунуцца. Усё — дома, усё — пад рукой. Узяў — пачытаў. Пачытаў — на палічку паставіў. Цуд, любата адна! У мяне ж такога не было, калі вучыўся ў школе і ў інстытуце. Толькі б дачакацца ўнукаў гэтых, перадаць ім любоў да кніжак!

Можа б, і спраўдзілася мая мара, ды крута ўмяшаліся ў выхаваўчы працэс гэтыя самыя спадчынныя гены, плюс камп'ютарызацыя ўсяго грамадства, як сказаў бы наш колішні правадыр. Пры чым гены? Ды пры тым, што і ўнучак Цімошка насуперак майму жаданню яшчэ са школы ў чытанні бацькаву лінію ўзяў — нават праграмныя творы не спяшаўся агораць, перагарнуць лішнюю кніжную старонку са сваркай удавалася. Што ж да тэхнічнага прагрэсу, то дамогся хлопец, каб яму тую мабілу-дэбілу прыдбалі, ноўтбук, а пасля яшчэ — электронны планшэт. Мадэрнізаваўся — лепш не прыдумаеш. Цяпер сядзіць днямі, горбіцца, уздзеўшы навушнікі, усё нешта водзіць пальцам па акенцы планшэта, вышуквае нешта ў камп'ютары, усё нешта «скачвае», бубніць пад нос, напявае. Праз нейкі там інтэрнэт знаёмствы заводзіць, мяняецца чымсьці… Нейкімі там лайфамі з ё-маё ды смартфонамі галаву забівае, нібыта павук той, у сваёй «павуціне» блытаецца.

Глядзеў я, глядзеў на ўсё, ды аднаго разу не вытрымаў, вырашыў выказаць хлопцу ўсё, што думаю.

— Ты б кніжку якую прачытаў, а не ў той павуціне блытаўся, радыяцыі па сваёй волі набіраўся. Для каго ж я стараўся, збіраў іх, грошы апошнія траціў? Нават піва лішні куфаль не выпіў, эканоміў усё.

— Дзед, я ж не прасіў цябе з-за мяне парыцца і ахвяраваць півам. Я ж не вінаваты, што ты такім тормазам быў, мазгамі не ў той бок варушыў. Можаш цяпер выправіць колішнюю памылку — колькі ўлезе піва пакайфаваць. Ды якога яшчэ! — і глынуў з горлачка нейкай заморскай пасудзіны, што стаяла на століку перад ім. Потым скептычна ўхмыльнуўся: — Прызнайся, а сам ты хоць палову гэтага антыкварыяту запыленага змусоліў, прачытаў? Нешта я не бачыў, каб іх хто ў рукі браў, зырыўся над імі.

— Ты нахабнік недалужны! — ускіпеў я спачатку. Але потым апошнія ўнукавыя словы неяк ахаладзілі маю першапачатковую рэакцыю. — За пенсію цяпер і накупляешся гэтага піва-крыва! Табе пашанцавала: ля бацькавай кішэні прыгрэўся, лішнімі грашыма цябе разбэсцілі. А ці на ўвесь твой век хопіць іх? Як ты думаеш?

Адным словам, выказаўся ўнуку да дрыготкі ў грудзях, узяў таблетку пад язык, сабраў рукзак, ды на дачу выбраўся. Жонка там ад самай вясны ў градах корпалася. Я ж падрабляў вартаўніком на аўтастаянцы, таму паказваўся там толькі пасля дзяжурстваў. Пакінуў унука аднаго: няхай, думаю, дзень-два на сваіх чыпсах-кліпсах пасядзіць, успамінам пра поўны халадзільнік пажыве. Можа, надгаладзь, пакуль вярнуся, розуму хоць трохі набярэцца. Бацькі ж у адпачынак з'ехалі, хто яго абедам ці людскай вячэрай падтрымае?

Вярнуўшыся з дачы і зайшоўшы ў кватэру, я аслупянеў: стэлажы маіх кніжных паліц стаялі голенькія, пустыя, быццам падмеценыя. Спачатку сэрца ёкнула, пахаладзела: злодзеі залезлі, абакралі! Можа, не адны кнігі выграблі, а ўсяго абчысцілі? Хацеў ужо кінуцца да тэлефона, у міліцыю пра сваю бяду заявіць, ды тут унук з нейкай расамахай з кухні выглядвае.

— Ты, дзед, перастань з пярэпалаху крыллем лопаць. Ніхто нас абкрадваць не збіраўся. Проста, дзед, накладачка выйшла, фінансавы аблом накасячыўся. Паабяцаў Мілаху на канцэрт Джо Кокера звадзіць ды ў кафэшцы патусавацца, а бацяня «бабла» толькі на харчы адшпіліў, паскупіўся. Давялося нейкія рэзервы шукаць у сваіх цянётах.

— І ты? — у мяне перахапіла дых і я ледзь не кінуўся на ўнука з кулакамі.

— Дзед, супакойся, — быццам не зважаючы на мой гнеў, прыхінуў да сябе незнаёмую мне Мілаху-расамаху ўнук. — У кватэры, паглядзі, менш непатрэбнага фуфла стала, а мы з Мілахай адцягнуліся кайфова. Праўда, Мілка?

— Угу, — пагадзілася тая.

— Ты куды падзеў іх, басурман? — паказаў я на пустыя паліцы. Унутры ў мяне ўсё клекатала, як у чэраве разбуджанага вулкана.

— Ты б, дзед, каб і хацеў сам, такую крутую здзелку век не правярнуў бы, спакойна-развязна, быццам нічога кепскага не адбылося, гнуў сваё ўнук. — Частку кніг нейкі вахлак-букініст выкупіў. Я яго ў інтэрнэце адкапаў. Ведаеш, нават «зялёнымі» расплаціўся. Астатнія на макулатуру здаў. Іх яе братан на сваёй тачцы адруліў. Вышэйшым класам пайшлі. На яшчэ адну вылазку ў кафэшку наўрад ці пацягне, а на Макдональдс хопіць. Праўда, Мілка?

— Угу, — зноў матлянула разбрэсанымі кудламі расамаха. — І на піва.

— Дарэчы, дзед, — быццам схамянуўся ўнук. — А я табе кампенсацыю клёвую надыбаў. Зірні-тка сюды! — І ён неяк узрадавана і ўрачыста разнасцежыў дзверы на кухню і павёў перад сабой рукою, быццам запрашаў да стала надзвычай пажаданага госця.

На стале стаяла цэлая батарэя піўных бутэлек. Самых адмысловых марак. І нашых, і імпартных. Яны стаялі, шыкоўна аздобленыя, як прынадныя шкляныя цацкі. Золатам адлівалі на іх прыцягальных этыкетках літары: нават шыкоўней і прывабней, чым на карэньчыках ды вокладках маіх бібліятэчных тамоў, важкіх матэматычных слоўнікаў, што недзе ўжо, мусіць, ляжалі, скіданы грудамі, чакаючы прысуду, які вынесла ім неспадзявана людская абыякавасць і няўдзячнасць. А можа, і мая сляпая, некалі шалёная любоў?!

# Кіно і немцы




Ёсць п'есы, якія з цяжкасцю чытаюцца, але ажываюць на сцэне. Гэтак жа ёсць празаічныя творы, якія маглі б стаць неблагімі сцэнарыямі для кіно, але ў форме апавядання/аповесці іх слабыя месцы робяцца відавочнымі. Так, прыкладам, сталася з аповесцю Віталя Жураўскага «Кот са званочкам на шыі», надрукаванай у «Нёмане» № 1/2015. Сюжэт мае дзве паралельныя лініі — гістарычную і сучасную. У гістарычнай раскрываецца лёс палотнаў Пітэра Брэйгеля, якія апынуліся ў Беларусі. Першая сусветная, палітычныя інтрыгі, спадзевы на Кайзера — знаёмая карціна. Маючы патрэбу ва ўзбраенні, «нашыя» вырашаюць абмяняць працы фламандскіх мастакоў на нямецкія вінтоўкі (сантымент тагачаснай Германіі да твораў мастацтва не таямніца). Але план зрываецца, і гісторыя працягваецца ўжо ў 1939 годзе, калі ў Мінску была адкрытая мастацкая галерэя, затым — Другая сусветная, у горадзе — паніка, а мужная супрацоўніца музея замест бюстаў Горкага і Луначарскага ратуе шэдэўры Брэйгеля. Сучасная лінія аповесці працягваецца ў Багуславе, ціхім гарадку, які і марыць не мог пра такія прыгоды; героі — адчайны журналіст, прывабная бібліятэкарка і маёр Паўловіч, які нагадвае пацешнага Лестрэйджа ў выкананні Браніслава Брандукова.

Выглядае ўсё гэта вельмі займальна, а стройна выбудаваны сюжэт так і просіцца на экран. «Беларусьфільм» мае вялікі досвед у вытворчасці ваенных фільмаў, дык чаму б не паглядзець на ўсё гэта з боку «прыўкраснага», на лёс мастацтва ў гады, калі нікому да яго не было справы, апроч рэдкіх герояў ды прагных захопнікаў? Тым больш што нацыянальная кінастудыя ўжо рабіла адну такую спробу (згадайце міні-серыял «Сляды апосталаў» (2013), сюжэт якога віруе вакол міфічных дванаццаці апосталаў Радзівілаў). З аповесці Віталя Жураўскага можа атрымацца не горшы кінапрадукт.

Экранную тэму працягвае Фёдар Конеў. Дакладней, заэкранную, бо апісаныя гісторыі паказваюць чарнавы бок кінавытворчасці. Усё гэта — расчараванні, разбітыя мары, п'янства ды іншыя спробы збегчы ад сумнай рэальнасці — магло адбывацца (і адбываецца) не толькі з людзьмі кіно і нават не толькі з людзьмі мастацтва. Апавяданні Фёдара Конева «даўлатаўскія» па настроі, але не такія дасціпныя і атточаныя стылістычна. Іх персанажы — недарэчныя, няшчасныя людзі, якія не перастаюць марыць пра вялікае, але на тым усё і заканчваецца. Між радкоў можна ўбачыць развагі аўтара пра сэнс (калі ён увогуле існуе) мастацтва, пра геніяў і тых, хто імкнецца стаць імі.

Апавяданні Генадзя Аўласенкі паглыбляюць безнадзейную змрочнасць. «Кабінет» — вельмі сімпатычная і цікавая рэч, якую можна трактаваць як метафару дэманічнай сілы грошай, хоць як чытачу мне здаецца, што ў апавяданні нявартa шукаць двайное дно — гэта проста страшная гісторыя. Аднак тэкст варта дапрацаваць: у цэлым аўтар здолеў стварыць «брытанскую» атмасферу, але асобныя дробязі, шурпатасці выклікаюць прыкрае адчуванне. У прыватнасці, не хапае стрыманасці ў дыялогах і апісаннях.

У паэзіі пануе мінорна-лірычны настрой, створаны далікатным спалучэннем прыродных замалёвак і роздумаў, тонкіх душэўных перажыванняў (Навум Гальпяровіч, Таццяна Лебедзева, Леў Парэмскі). Выбіваецца з гэтага шэрагу Валерый Грышкавец: ён у часам грубаватай форме выказвае абурэнне крывадушнымі парадкамі свету. Неадназначныя ўражанні пакідае і апавяданне Аляксандра Сілецкага «Чапля», дзе, захапіўшыся эксперыментам з рытмікай, аўтар недапрацоўвае сюжэт, праз што сэнс твора застаецца цьмяным.

**P. S.** «Нёман» прэзентуе сумесны з Беларускім саюзам музычных дзеячаў праект «Collegium musicum» — аповеды пра найвыбітнейшых «класічных» музыкаў, якія будуць друкавацца цягам года.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Крыху неспадзяванак

На старонках першага нумара «Полымя» чытач знойдзе нямала імёнаў, знакавых у беларускай літаратуры. Серафім Андраюк распавядае пра дзённікі Яна Скрыгана, змешчаныя ў кнізе «Сэрцу горкая далячынь», Алесь Карлюкевіч — пра кітайскага перакладчыка Гаа Мана, «яркую зорку ў зносінах кітайскага прыгожага пісьменства са славянскімі літаратурамі». У рубрыцы «Эпісталярый» змешчаны лісты да Івана Шамякіна ад М. Танка, І. Чыгрынава, А. Кулакоўскага ды інш.

«Галасы свету» знаёмяць з асобай Міхаіла Хонінава — калмыцкага пісьменніка, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны быў партызанам на Беларусі, а потым неаднойчы звяртаўся ў мастацкіх творах да выяўлення ваенных падзей. Вершы М. Хонінава перакладалі такія беларускія аўтары, як М. Танк, С. Грахоўскі, Р. Барадулін, А. Пысін. Інтэрв'ю з дачкой пісьменніка Рымай Міхайлаўнай папярэднічае невялікаму апавяданню М. Хонінава.

А. Вашчанка прапануе публікацыю дзённіка Міколы Лобана за 1944 год. У гэты час малады пісьменнік і літаратуразнаўца вучыўся ў БДУ — у Падмаскоўі, каля станцыі Сходня. Між запісаў часам сустракаюцца крытычныя радкі: «Крыўдна за свой універсітэт. Універсітэт, які павінен быць сцягам беларускай культуры, цураецца беларускай мовы. Ні выкладчыкі, ні студэнты не ведаюць яе. Нават выкладчыца гісторыі беларускай мовы не ведае яе. Усе падаюць заметкі ў сценгазету на рускай мове. Я хутка аб'яўлю ўсім нявежам жорсткую барацьбу». Непасрэдная ацэнка многіх падзей і асоб зрабіла дзённік надзвычай цікавым матэрыялам для публікацыі.

Да прадказальных і непрадказальных герояў гэтага нумара дадаецца яшчэ адна каларытная постаць: Войслаў Казімір Суліма-Савіч-Заблоцкі (да 1850 — пасля 1983). Вячаслаў Мартынюк і Юры Пацюпа дзеляцца адшуканымі тэкстамі гэтага аўтара: адзін з ранніх беларускамоўных вершаваных твораў «Сон гудара маладога», напісаны ў жанры відзёжы, а таксама два лісты да вядомага ўкраінскага пісьменніка Івана Франко. Тут граф Суліма выказвае свае погляды на справу нацыянальнага адраджэння ва Украіне і сітуацыю ў беларускай культуры: «хош Вы, брацця чырванарусы, інакшым гукаеце рускім языком, я інакшым, усё ж Вы, тай мы, беларусы, адно, ядзіна сяммя, ядзіна Русь (...) Вы болей падзвігнёны ўпярод, мы — таліка цяпер якась, па аслабожанню мужыкоў нашых з крапацтва, незабутнай па-гэтаму памяці, Аляксандрам II, па-чалавецку дышаці начынаема...».




Сучасны літаратурны працэс прадстаўлены вершаванымі падборкамі Васіля Зуёнка, Ганада Чарказяна, Станіслава Валодзькі. Проза нумара — міфалагічны трыпціх Ганны Навасельцавай «Лесавік, вадзянік, палявік», апавяданне Тамары Бунта «Табе падалося», аповесць-казка Васіля Гігевіча «Атамізацыя». У творы В. Гігевіча чытач трапляе на планету Дээта, дзе лад жыцця, культура і навукова-вытворчая сфера вельмі нагадваюць «Дзіўны новы свет» О. Хакслі. Фантастычны свет незямных цывілізацый ці будучыні чалавецтва супадае ў многіх творах — верагодна таму, што аўтары вылучаюць і выяўляюць у развіцці аднолькавыя, самыя вызначальныя заканамернасці, якія здаўна рухаюць грамадства «Атамізацыя» як фантастычны твор адметная незвычайным галоўным героем. Гэта вясёлы, бадзёры здаравяка-беларус, які любіць хвацка адзначыць свята ці адпачыць з вудай. З цікаўнасці ён адмаўляецца ад звыклага жыцця і пагаджаецца выканаць сакрэтнае заданне. Відавочнымі для героя робяцца недахопы гуманоіднай звышцывілізацыі: прагрэс мае безліч выдаткаў. Больш прывабным паўстае натуральнае, простае вясковае жыццё, эпізоды якога з настальгіяй прыгадвае герой. Незвычайная і форма аповесці: твор не толькі напісаны ад першай асобы, але і мае характэрныя асаблівасці аповеду (размоўная інтанацыя, імкненне прывабіць і захапіць уяўнага слухача, жартоўнасць, частотнае выкарыстанне прымавак і эмацыйна-ацэначных слоў). Праблемы будучыні рэдка апісваюцца ў гумарыстычным рэчышчы, але адступленне ад жанравых канонаў, магчыма, будзе да густу чытачам «Полымя».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Святы працягваюцца

Неяк незаўважна зніклі навагоднія ўпрыгожванні з вітрын і вуліц, ялінкі — на сметніках, Дзед Мароз — у адпачынку, і надышоў час самім выконваць свае пажаданні і здзяйсняць цуды. У час постнавагодняй хандры першы нумар «Маладосці» вяртае святочную атмасферу — з самых першых старонак.

Так, пачынаецца часопіс з каляднай падборкі вершаў «Мандарыны на снезе». Цікава, на якія розныя па настроі творы могуць натхніць зімовыя святы. У аднаго радкі агорнутыя водарам хвоі і глінтвейну, у іншага — лекамі ад прастуды. Хтосьці сумуе па леташніх няспраўджаных жаданнях, а хтосьці шчаслівы. Вылучаюцца з агульнага шэрагу арыгінальнасцю і іроніяй твор Віталя Быля пра тое, як святы Мікола кантрабандай вязе Каляды, верш «Мандарыны на снезе» Дзяніса Носава, назва якога дала найменне ўсёй падборцы. Падарункам для мяне стала нізка вершаў Вольгі Гронскай, якія завяршаюць калядны паэтычны карагод. Радкі паэткі здаюцца простымі, блізкімі, даўно знаёмымі, хоць і чытаеш іх упершыню, аднак пры гэтым верш пазбаўлены банальнасцей. У творах В. Гронскай асаблівая, адметная лірычнасць.

Калядная падборка змяняецца філасофскімі празаічнымі творамі пра рэлігію і веру. Даволі цікавай падаецца фантазія Паўла Падзорава пра другое прышэсце: Сына Божага вельмі здзівіў наш сучасны свет, а памкненне змяніць яго да лепшага скончылася… у пастарунку.

Своеасаблівы шок выклікае апавяданне «Плюх». Студэнт медыцынскага ўніверсітэта, будучы акушэр-генеколаг Мікіта Волкаў вельмі рэалістычна апісвае ў сваім творы працэдуру аборту. Шчыра кажучы, пры чытанні ўсё сціскалася ад страху і часам нават даводзілася заплюшчваць вочы, нібы падчас прагляду фільма жахаў.

Фанатаў гурта «Нельга забыць» чакаюць «Пытанні на ўсе адказы» ад Міхася Бараноўскага. На першы погляд можа падацца, што творца занадта часта карыстаецца шматкроп'ямі, але пасля другога-трэцяга верша разумееш, што гэта не недахоп, а «фішка» аўтара, якая надае радкам плаўнасць, своеасаблівую рытмічнасць, павольнасць і разважлівасць. Творы Міхася вельмі меладычныя і напеўныя, і, магчыма, некаторыя з іх стануць музычнымі кампазіцыямі, як ужо здаралася.

Перакладчыкі МДЛУ пацешылі «Каляднай ялінкай» Ч. Дзікенса, а паэт Арцём Кавалеўскі распавёў пра таленавітую казачніцу, якая вывучае міжнародную журналістыку ў БДУ. У раздзеле крытыкі можна знайсці цікавую рэцэнзію Маргарыты Дзяхцяр на «Кантынентальны снядак» Сяргея Календы, а калі пагартаць далей, даведаецеся, як Віктар Лупасін з'ездзіў у Нясвіж і перамог чорную дзірку.




Заканчваецца першы ў гэтым годзе нумар «Маладосці» кітайскім новым годам, які, вядома, прыходзіць пазней за наш. А можа, яшчэ рана выносіць ёлку?..

**Дар'я ЛАТЫШАВА**




# Прыемная навіна

**Часопіс для падлеткаў «Бярозка» са студзеня 2015 года зноў пачаў выходзіць асобным каляровым выданнем. Сімвалічна, што адбылася гэтая знакавая падзея ўслед за юбілеем часопіса: зусім нядаўна, у снежні, «Бярозка» адзначыла 90-годдзе.**

Чым жа можа парадаваць сваіх чытачоў аднюўленая «Бярозка»?

Па-першае, вельмі цікавым афармленнем, дзе арганічна спалучаюцца малюнкі і фотаздымкі. І ўсё ж галоўнае для часопіса — гэта змест. «Бярозка» — часопіс не толькі пра падлеткаў і для падлеткаў: яны самі ствараюць часопіс. І гэта не перабольшанне.

Узяць, да прыкладу, рубрыку «Верасок», дзе друкуюцца мастацкія творы юных аўтараў. Тут і вершы, і невялікія лірычныя замалёўкі, і нават самае сапраўднае апавяданне «Рарытэт» Алены Марціновіч, выпускніцы СШ № 11 г. Мінска, а зараз студэнткі Інстытута журналістыкі БДУ. Апавяданне напісана прафесійна. Адзначу, што публіцыстычныя матэрыялы Алены і раней друкаваліся на старонках «Бярозкі».

У рубрыцы «Жыццёвае» студзеньская «Бярозка» змяшчае артыкул «Маленькі цуд» Ксеніі Вядзмедзь, вучаніцы мінскай гімназіі № 61, у рубрыцы «Пазакласнае» — артыкул-разважанне «Моўныя эксперыменты» дзесяцікласніка Уладзіслава Труханава з Докшыц. А вучань 8 класа гродзенскай СШ № 12 зрабіў цікавы рэпартаж з уласнай школы для рубрыкі «Школа журналістыкі».

Юныя аўтары дасылаюць у «Бярозку» не толькі ўласныя літаратурныя творы, але і малюнкі. Напрыклад, з Мінскай дзяржаўнай гімназіяй-каледжам мастацтваў «Бярозка» наладзіла плённае супрацоўніцтва. Творы юных мастакоў можна ўбачыць і на вокладцы часопіса.

Некалькі слоў пра рубрыку «Літаратурныя старонкі», дзе ўжо вядомыя пісьменнікі прапануюць свае творы юным чытачам. У студзеньскім нумары змешчана нізка вершаў Фелікса Баторына. І хоць сам аўтар, дасылаючы творы ў рэдакцыю «Бярозкі», шчыра прызнаўся, што «вопыту складання дзіцячых твораў» не мае, дэбют спадара Фелікса як дзіцячага пісьменніка можна лічыць удалым.

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

*Творчы партрэт*

# «Вяртанне да сябе?..»

Нікому не дадзена спыніць імклівы бег часу, але кожнаму даецца магчымасць напаўняць уласнае жыццё, час і прастору годнымі справамі, стваральнай дзейнасцю для людзей, краіны, урэшце — для родных, дарагіх і каханых. Нястомнасць у навукова-даследчай, літаратурна-асветніцкай працы і надзвычай рэдкі талент падзвіжніцкай любові да людзей блізкіх і, як мне здаецца, да кожнага, каму патрэбна маральная падтрымка ці дапамога, уласцівы Галіне Тварановіч.

НАВУКОВЕЦ

Беларуская інтэлігенцыя, найперш пісьменнікі, філалагічная грамадскасць Беларусі і замежжа добра ведаюць і шануюць яе руплівую педагагічную і літаратурна-даследчую працу. Захапляюцца то хрысціянска-духоўнай узрушанасцю, то медытатыўным спакоем яе паэзіі.

Галіна Тварановіч нарадзілася ў вёсцы Драганава Асіповіцкага раёна. Скончыла філалагічны факультэт БДУ, аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН Беларусі. У 1985 годзе абараніла кандыдацкую, а ў 1996-м — доктарскую дысертацыі. Яе навукова-даследчыя кнігі «Нравственный мир героя. Белорусская и югославская военная проза 1960 — 70-х годов» (Мінск, 1986), «Пакутаю здабыты мір: Тыпалогія характару ў беларускай і славенскай прозе» (Мінск, 1991), «Беларуская літаратура. Паўднёваславянскі кантэкст (Адзінства генезісу, тыпаў літаратур і характар узаемасувязей» (Мінск, 1996) прыкметна ўзбагацілі айчыннае літаратуразнаўства.

З 1999 года доктар філалагічных навук, прафесар Г. Тварановіч працуе ва ўніверсітэце ў Беластоку (Польшча), узначальвае кафедру беларускай філалогіі, жыве ў Бельску Падляскім. Навуковыя інтарэсы даследчыцы па-ранейшаму скіраваныя на ўзаемакантакты беларускай літаратуры з іншымі еўрапейскімі. У 2008 годзе Галіна Тварановіч у суаўтарстве з Янам Чыквіным пераклала са старапольскай мовы на беларускую арыгінальны літаратурны помнік «Запіскі янычара Канстанціна Міхайловіча, серба з Астравіцы», тэкст якога быў невядомы большасці беларускіх гісторыкаў літаратуры. Перакладчыца выказвае слушнае меркаванне пра магчымасць узнікнення «Запісак янычара…» ў беларуска-польскім культурным асяродку Вялікага Княства Літоўскага. Знаходкі і гіпотэзы даследчыцы вельмі актуальныя ў наш час драматычнага раз'яднання народаў…

> **З запісаў 27 лютага 1983 года:**
> *«Не магу ўявіць Яго, як бясконцасць не магу ўмясціць у сябе. Але ж я адчуваю над усім лёсаносную Руку, Якая кіруе светам з часам мінулым, цяперашнім і будучым. І чым бы я была без вызнання Бога?! Пустыняй! Жывуць у маёй душы два пачаткі — Бог і каханне. Не магу не любіць, створана так, што жывая толькі тады, калі кахаю. Але ж гэтыя два пачаткі так цесна звязаны, што, магчыма, і не пара іх, а адзін толькі…».*

У апошнія гады прафесар Г. Тварановіч зацікаўлена даследуе беларускую літаратуру ў Польшчы, найперш — творчасць сяброў літаб'яднання «Белавежа». Гэтаму і прысвечаны яе навуковыя выданні — кнігі «Пад небам Айчыны» (Беласток, 2005), «Пры брамах Радзімы. Літаратурнае аб'яднанне «Белавежа»: станаўленне, праблемы, асобы» (Беласток, 2012), а таксама многія змястоўныя публікацыі і выступленні з дакладамі на міжнародных навуковых форумах.

Даследчыцы стае часу на ўкладанне і рэдагаванне вядомага гуманітарыям і філолагам свету навуковага штогодніка «Беларутэністыка Беластоцкая», які ўжо шэсць год выходзіць у выдавецтве ўніверсітэта ў Беластоку, заснавальніцай якога яна і была. Думаецца, што натхненне і сілы памнажае сумоўе душ — Галіны Тварановіч і Яна Чыквіна. Яны разам узнялі аўтарытэт беларускай літаратуры ў Польшчы, далучылі да актыўнага навукова-даследчага асэнсавання розных аспектаў беларусістыкі сталых і маладых вучоных з Беларусі і Польшчы.

З'яўленне Г. Тварановіч на Беласточчыне стала знакавай падзеяй у наладжванні плённых навукова-культурных стасункаў паміж Польшчай і Беларуссю. Сёння ў нашым літаратуразнаўстве склалася цэлая кагорта даследчыкаў, заангажаваных творчасцю беларускіх пісьменнікаў Беласточчыны: пачынаючы з вядомага філосафа У. Конана і да маладзейшых В. Шынкарэнка, Г. Тычка, П. Васючэнкі, А. Петрушкевіч, А. Раманчука.

ПАЭТЭСА

Г. Тварановіч — аўтар пяці кніг вытанчанай хрысціянска-філасофскай паэзіі: «Ускраек тысячагоддзя» (1996), «Верасы Драганава» (2000), «Чацвёртая стража» (2004), «Бурштынавы яблык» (2010) і пера-



кладзенай на польскую мову кнігу вершаў «W nieba utulenie» (1996). Тры апошнія выйшлі ў Беластоку.

Творчасць яе адметна вылучаецца ў плыні адроджанай беларускай духоўна-хрысціянскай паэзіі. Вершы нараджаюцца з самазаглыблення, з пошукаў душэўнай спатолі і гармоніі. Паэтэса адлюстроўвае шлях душы да наталення верай. У засені крыжа ратуецца стомленая душа лірычнай гераіні:

*Абпаленая і перасохлая*
*у ілжывай бясконцасці*
*тлумнага дня*
*зацята шукаю адзінага месца,*
*дзе яшчэ можна жывою вадою*
*душу наталіць —*
*імкнуся ў засень Крыжа.*

Пранізлівы сум, роздум пра смерць і пра тое, што ёсць іншабыццё, прыводзяць гераіню да неабходнасці веры «ў святло, у світанне» — ва ўваскрашальную несмяротнасць душы. Жыццё чалавека непазбежна «мусіць апасці лісцем сухім / пад крокі наступнікаў…» Але душа, напоўненая і асветленая верай, размаўляе з вечнасцю і застаецца ў ёй:

*…Цяпер я мару быць смыком,*
*Якога цемра бяжыць.*

Паэзія Г. Тварановіч дапамагае асэнсаваць шлях да веры, які часцей пачынаецца з болю страты, з усведамлення незваротнасці. Яе творы даюць магчымасць пераканацца ў гарманічнасці жыцця асобы ў веры, у ацаляльнай сіле малітвы, якая ратуе душу, суніме боль.

*Сплывае імглістасць суровых вякоў*
*над прыхаванымі колісь*
*вяршынямі духу…*
*Вось дачакаліся:*
*выспеліў час*
*таемныя долю і лёс,*
*маленне і шлях —*
*прагу Хрыста*
*ў Беларусі.*

> **З запісаў 5 мая 1983 года:**
> *«…Цяпер усведамляю, што вера ўва мне жыла заўсёды, доўгія гады стукалася ў замкнёныя дзверы душы, прасілася, каб прызнала яе, каб запатрабавала невымерны скарб, атрыманы разам з нараджэннем. Вяртанне да сябе?..»*

Занепакоенасць аб дабрыні і міласэрнасці між людзьмі, народамі і дзяржавамі прачытваецца ў, здавалася б, глыбока асабістых радках, дзе грамадска-агульначалавечае дакладна супадае з малітвай верніцы:

*А мабыць,*
*улада —*
*ад «лад», і «паладзіць», адкуль і «суладдзе».*
*Моцы малю, каб дачакацца*
*міласэрнае самае ўлады —*
*улады Любові Хрыстовай*
*над роснай зямлёю…*

Сярод вершаў духоўна-хрысціянскага гучання сучаснікаў (Р. Барадулін, Н. Мацяш, Х. Лялько, І. Багдановіч, Зьніч (Алег Бембель), Д. Бічэль ды інш.) паэзія Г. Тварановіч вылучаецца, па меркаванні Я. Чыквіна, «найвышэйшым узроўнем… хрысціянскага духоўнага самавыяўлення».

Па вызначэнні бібліеіста, прафесара А. Яскевіча, такую паэзію варта называць трансцэдэнтнай, або паэзіяй хрысціянскай праўдзенцыйнасці (Гл.: А. С. Яскевіч. Біблейскі пераклад. Зберажэнне тэксту. Аб духоўнай паэзіі. Мінск, 1988). У найноўшай беларускай паэзіі, піша Я. Чыквін у кнізе «Ідэя. Вобраз. Інтэрпрэтацыя» (Беласток, 2014), творчасць Г. Тварановіч і Зьніча (А. Бембеля) прадстаўляе тэацэнтрычную плынь (у адрозненне ад антрапацэнтрычнай, якая таксама сцвярджае хрысціянскія каштоўнасці і ідэалы).

Я. Чыквін, аўтарытэтны і праніклівы вучоны, канцэптуальна паглыбляючы і ўдакладняючы ў названай кнізе іншыя важныя аспекты айчыннага літаратуразнаўства, аргументавана разважае пра шляхі станаўлення сучаснай беларускай духоўнай паэзіі. Ён вылучае два адметныя кірункі: «авакумаўскі», якім ідзе ў сваёй паэзіі Зьніч (А. Бембель), і «паскалеўскі», які і прадстаўляе творчасць Г. Тварановіч з уласцівымі жанравымі адметнасцямі: вершамі-малітвамі, споведзямі, медытацыямі (на ўвазе маецца традыцыя знакамітага французскага вучонага, матэматыка, фізіка, літаратара, рэлігійнага філосафа XVII стагоддзя, які апошнія гады жыцця, пакінуўшы дакладныя навукі, аддаў абароне вечных хрысціянскіх каштоўнасцей).

Спасціжэнне паэзіі Г. Тварановіч запрашае кожнага да роздуму: хто мы на гэтай зямлі, як павінны стасавацца між сабой.

Мяне незвычайна ўзрушыла апошняя па часе выдання аўтабіяграфічная кніга Г. Тварановіч «Пайсці, каб вярнуцца» (Беласток, 2014), якая ўзнікла паводле шматгадовых дзённікавых запісаў аўтара. Кніга складаецца з трох частак: «З запісаў вучаніцы», «З запісаў студэнткі», «З запісаў аспірантэкі». У шэрагу аўтабіяграфічных кніг і твораў беларускіх пісьменнікаў названая кніга Г. Тварановіч унікальная. У ёй спавядальна прадстаўлена спачатку жыццё дзяўчынкі-школьніцы, піянеркі, адказнай і самадысцыплінаванай камсамолкі, а затым студэнткі і аспірантэкі — праз самааналіз, самапаглыбленне, часта бязлітаснае самавыкрыванне. Дапытлівая, неспакойная душа дзяўчынкі-падлетка, а затым аспірантэкі, маладой матулі, пераадольваючы рэгламентацыі савецкай ідэалогіі і атэістычнай маралі, уздымалася і расла да хрысціянскага чалавекалюбства. Г. Тварановіч удзячная ўніверсітэцкім настаўнікам, асабліва Ларысе Лявонцьеўне Кароткай, якая стала ідэалам выкладчыка, а таксама Веры Міхайлаўне Лумбінай, якая «адкрыла» будучай даследчыцы Югаславію, літаратуры і культуры яе народаў.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА**

# Шлях у сем стагоддзяў

## Новая мова, новая літаратура

**Першая частка працы Фелікса Баторына, прысвечаная яўрэйскай літаратуры, выйшла ў «ЛіМе» № 4. Артыкул ахапіў перыяд з сярэдняевечча да Гаскалы — яўрэйскага адраджэння і распавёў пра асаблівасці жыцця тагачасных яўрэяў, найбольш выбітных пісьменнікаў і самыя значныя творы яўрэйскай літаратуры XIV — XVIII стагоддзяў. Сённяшні артыкул робіць яшчэ адзін стагадовы крок — з канца XVIII стагоддзя па 1870-я гады, калі пачаўся заняпад Гаскалы.**

### «БАРАНІЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНУ!»

Трапіўшы ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай пад уладу Расійскай імперыі, яўрэі адразу адчулі розніцу паміж памяркоўным стаўленнем да іх польска-літоўскіх уладаў і рэзка адмоўным — рускага царызму, які істотна абмежаваў правы яўрэяў, загнаў іх за рысу аселасці, абклаў непамернымі падаткамі, стэрарызаваў жорсткімі рэкруцкімі наборамі. Апроч таго, малалетніх хлопчыкаў забіралі ў кантаніцкія вучылішчы, дзе іх прымусова хрысцілі ў праваслаўе. Няма нічога дзіўнага, што да паўстанцаў 1831 і 1863 — 1864 гадоў далучаліся і яўрэйскія атрады. Так, у сваіх мемуарах («Moje podróże») Ігнат Дамейка апісвае эпізод, які адбыўся позняй восенню 1831 года: едучы да месца дыслакацыі паўстанцкага атраду, Дамейка з таварышамі сустрэў групу ўзброеных яўрэяў. «Вы куды?» — спытаўся Дамейка і пачуў у адказ: «Бараніць Бацькаўшчыну!». Гэты выпадак выразна дэманструе, што жыццё нашага краю перастала быць для іх чужым.


Мойхер-Сфорым Мендэле.

### РЭАЛІЗМ І РАМАНТЫКА

Канец XVIII — XIX стст. — час, калі ў літаратуру прыйшла група таленавітых пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў, якія развівалі ідэі гебраізму і ператварылі іўрыт з урачыста-архаічнай мовы рэлігійнага культу (практычна мёртвай, бо не ўжывалася ў штодзённым жыцці) у высокамастацкую, гатовую да адраджэння. Пераважная большасць гэтых пісьменнікаў паходзіла з усходнееўрапейскага яўрэйства (з Беларусі, Літвы, Галіцыі і Украіны). З менавіта беларуска-літоўскіх яўрэйскіх пісьменнікаў-гебраістаў трэба адзначыць А. Д. Лебенсона, М. І. Лебенсона, І. Л. Гардона, А. Мапу, Мендэлэ-Мойхер-Сфорыма (Ш. Абрамовіч з Капыля) і іх паслядоўнікаў — П. Смаленскіна, Р. А. Браўдэса і інш. Мендэлэ-Мойхер-Сфорым, што з лёгкай рукі Шолам-Алейхема атрымаў пачэсны тытул дзядулі яўрэйскай літаратуры, стаў пачынальнікам свецкай літаратуры на мове ідыш.

Сярод названых пісьменнікаў найбольш цікавым уяўляецца Іегуда Лейб Гардон. Ён пачынаў з рамантычна-ідылістычнай паэзіі на біблейскія матывы («Давід і Барзілай», 1886) і зборніка баек, дзе пераказаў на іўрыце сюжэты Эзопа, Ж. Лафантэна, І. Крылова, надаўшы ім выразны яўрэйскі каларыт. У тым жа зборніку пісьменнік змясціў вершаваныя пераклады шэрагу прыпавесцей з Мішны*. Сумяшчэнне атрымалася вельмі арганічным. Пісьменнік таксама цалкам слушна лічыцца бацькам навелы на іўрыце, выступаў як бліскучы і імпэтны публіцыст, стаўшы аўтарам першых у іўрыцкай літаратуры фельетонаў.


Іегуда Лейб Гардон.

Змагаючыся за духоўную асвету народа, І. Л. Гардон прааналізаваў адмоўныя бакі літаралізму ў адносінах да рэлігійных прадпісанняў, заклікаў адкінуць усё адсталае і рэакцыйнае ў яўрэйскім побыце Усходняй Еўропы, змагаўся за прарыў яўрэйскай самаізаляцыі.

Вялікую ролю ў развіцці рамана на іўрыце адыграў Абрагам бен-Іекуціэль Мапу. Гэты мастак слова густымі сакавітымі фарбамі намаляваў гістарычныя палотны з эпохі Першага Храма («Любоў у Сіёне», 1853, «Віны Самарыі», 1865), у якіх традыцыйна ідэалізаваў (як у драматычных творах пачатку XVII ст.) жыццё старажытнаяўрэйскіх абшчын на ўлонні маляўнічай палесцінскай прыроды. Такі фон зрабіў яшчэ больш яскравымі і захапляльнымі складаныя, з заблытанымі клубкамі інтрыг падзеі і рамантычных персанажаў у духу А. Дзюма.


Перац Смаленскін.

Пераходзячы да апісання сучаснага яму жыцця, пісьменнік высмейваў цемрашальства, адсталасць, местачковасць мыслення, заклікаў да асветы (раман «Ханжа», 1857—69). Адначасова А. Мапу рэзка крытыкаваў асімілятарства.

Прадаўжальнікам рэалістычнай лініі ў творчасці А. Мапу быў П. Смаленскін. Гэты пісьменнік шмат вандраваў і стварыў цэлую серыю раманаў, увасобіўшы ў іх набыты ў часе вандровак досвед і веды пра жыццё яўрэяў розных краін Еўропы. Але мастацкія вартасці ягоных твораў саступаюць вялікім папярэднікам.

Больш высокія мастацкія якасці ўласцівыя раманам Р. Браўдаса, якому ўдалося паказаць не толькі праблемы яўрэйскага мястэчка, але і праблемы яўрэйскай інтэлігенцыі, праблемы і супярэчнасці ўнутры Гаскалы.

### МОВА НАНОВА

Галоўным ідэйна-культурным цэнтрам Гаскалы ў Беларусі і Літве была, безумоўна, Вільня, дзе выдаваліся грамадска-літаратурныя штотыднёвікі «Га-Магід», «Га-Меліц», «Га-Кармэл».

> *Ігнат Дамейка апісвае эпізод, які адбыўся позняй восенню 1831 года: едучы да месца дыслакацыі паўстанцкага атраду, ён сустрэў групу ўзброеных яўрэяў. «Вы куды?» — спытаўся Дамейка і пачуў у адказ: «Бараніць Бацькаўшчыну!».*

Асаблівым цэнтрам прыцягнення для пісьменнікаў беларуска-літоўскай Гаскалы быў заснаваны П. Смаленскіным «Га-Шахар».

Як ужо зазначалася, Гаскала адначасова спрыяла і развіццю літаратуры на мове ідыш. Літаратура на гэтай мове ўзнікла адначасова з самою моваю. Ужо ў XII ст. з'явіліся глосарыі на ідыш, дададзеныя да асобных рэлігійных кніг. Іх прызначэнне — тлумачэнне свяшчэнных тэкстаў і парадку абрадаў простаму люду, які кепска валодаў іўрытам. Паступова на ідыш ствараўся багаты фальклор, пачалі з'яўляцца і кніжныя выданні.

Напрыканцы XVIII стагоддзя ідыш паступова заваёўвае пазіцыі новай літаратурнай мовы. У сярэдзіне XIX ст. гэтай мовай засвоеныя практычна ўсе літаратурныя жанры.

Адносіны паміж пісьменнікамі-гебраістамі і пісьменнікамі-ідышыстамі не былі простымі і адназначнымі. Гебраісты змагаліся за вяртанне іўрыту статусу агульнанацыянальнай мовы, нягледзячы на месцажыхарства яе носьбітаў, імкнуліся развіваць іўрыт у адпаведнасці з новымі сацыяльна-эканамічнымі і культурнымі абставінамі, выйсці за межы рэлігійнай функцыі гэтай мовы. Ідышысты лічылі, што інструментам паспяховай барацьбы за духоўны і культурны рост простага люду з'яўляецца менавіта развіццё мовы ідыш, на якой размаўляла еўрапейскае яўрэйства. Ідышысты разглядалі літаратуру на іўрыце як элітарную, а літаратуру на ідышы — як народную. Тым не менш непрымірымасці паміж гебраістамі і ідышыстамі не было — было супрацоўніцтва, стварэнне і публікацыя тэкстаў на абедзвюх мовах, перакладчыцкая дзейнасць (з адной яўрэйскай мовы на другую). Прадстаўнікі абодвух лагераў пісалі таксама на мовах краін пражывання — такім чынам літаратура выходзіла з культурнага гета, рабілася даступнай асіміляванай частцы яўрэйскага народа.


Абрахам Мапу.

### «МАЛЕНЬКІ ЧАЛАВЕЧАК»

Пачынальнікам новай яўрэйскай літаратуры на ідыш можна лічыць нашага земляка Мендэле Мойхер-Сфорыма (Шолам-Якаў Абрамовіч, 1836, Капыль — 1917, Адэса). Гэта першы пісьменнік, чыя творчасць дасягнула высокага мастацкага ўзроўню і атрымала сусветнае прызнанне. Свой літаратурны шлях Мендэле Мойхер-Сфорым пачаў з прыродаапісальных вершаў на іўрыце. У 1854 годзе юнак здзейсніў вандроўку па Беларусі і Украіне, пазнаёміўся з вядомым дзеячам Гаскалы пісьменнікам А. Б. Готлоберам, які паспрыяў адукацыі будучага класіка яўрэйскай літаратуры, дапамог яму ў вывучэнні рускай і нямецкай моў, прыродазнаўчых навук. У 1856 г. Мендэле Мойхер-Сфорым стаў настаўнікам у яўрэйскім казённым вучылішчы і неўзабаве апублікаваў сваю першую сур'ёзную літаратурную працу — «Пісьмо пра выхаванне», у якім даводзіцца неабходнасць вучыць дзяцей не толькі Талмуду, але і свецкім навукам, рускай мове. Пад уплывам дзеячаў рускай культуры Мендэле Мойхер-Сфорым вырашыў пераказваць на зразумелай простаму чалавеку мове навукова-папулярныя працы і абраў для гэтага «Гісторыю прыродазнаўства» Ленца, пасля чаго перайшоў да стварэння на ідыш мастацкіх твораў. Галоўным героем іх зрабіўся блізкі абранай пісьменнікам чытацкай аўдыторыі чалавек з нізоў, «маленькі чалавек». Першы свой буйны твор Мендэле Мойхер-Сфорым так і назваў: «Маленькі чалавечак». Тэма жыцця местачковага яўрэя, маленькага чалавечка з ягонымі вялікімі праблемамі — галоўная ў творчасці пісьменніка. Жыццё і творчасць Мендэле Мойхер-Сфорыма складаюць цэлую эпоху ў развіцці яўрэйскай літаратуры. Разам з Шолам-Алейхэмам (Украіна) і І. Л. Перацам (Польшча) ён уваходзіць у трыяду класікаў-пачынальнікаў новай літаратуры на ідыш.

### ЯШЧЭ НЕ КАНЕЦ

З 1870-х гадоў пачынаецца заняпад Гаскалы, але ў яўрэйстве ужо існавала высокаадукаваная інтэлігенцыя. З гэтага асяроддзя выйшлі цэлыя плеяды пісьменнікаў новай хвалі. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў да пачатку новага, XX, стагоддзя ў літаратуру на ідыш і на іўрыце ўвайшлі дзясяткі таленавітых паэтаў, празаікаў, драматургаў, крытыкаў. Выхаваныя на лепшых узорах сусветнай літаратуры, гэтыя пісьменнікі ўнеслі ў сваю нацыянальную літаратуру свежыя ўплывы, у тым ліку дэкадэнцкія, рамантычныя і рэалістычныя. З Беларуссю звязаныя такія імёны буйных нова-іўрыцкіх пісьменнікаў, як З. Шнэўр (1887, Шклоў — 1959, Нью-Ёрк), Д. Шымановіч (1886, Бабруйск — 1956, Тэль-Авіў), І. Кацнельсон (1885, Карэлічы — 1944, Асвенцым). Нова-іўрыцкі пісьменнік Л. Яфэ (1875, Гродна — 1948, Ерусалім) пісаў на іўрыце і рускай мове, перакладаў як з рускай, так і з іўрыту, з 1920 жыў у Палесціне. Усяго ж ідыш-моўных пісьменнікаў беларуска-літоўскага акрэсу было некалькі дзясяткаў.

> *Канец XVIII — XIX стст. — час, калі ў літаратуру прыйшла група таленавітых пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў, якія развівалі ідэі гебраізму і ператварылі іўрыт з урачыста-архаічнай мовы рэлігійнага культу ў высокамастацкую, гатовую да адраджэння.*

**Фелікс БАТОРЫН**

*** Мішна́** (літ. «паўтарэнне») — першы пісьмовы тэкст, які змяшчае рэлігійныя прадпісанні артадаксальнага юдаізму. Частка Вуснага Закона, які, згодна з традыцыяй, Усявышні перадаў Майсею на гары Сінай разам з Пяцікніжжам. Калі ўзнікла небяспека, што вуснае вучэнне будзе забытае, мудрацы вырашылі запісаць яго ў выглядзе Мішны.

*Паралелі*

# Сі ЧУАНЬ:
# «Паэт піша толькі для сваіх калег»



*Фота Кастуся Дробава*

**Госць XXII Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу — спадар Сі Чуань — кітайскі паэт, эсэіст, перакладчык. Ён адзін з галоўных рэдактараў часопіса «Сучасная міжнародная паэзія» (Contemporary International Poetry), шмат перакладае, падарожнічае, цягам некалькіх семестраў выкладаў спецыяльны курс «Кітайская літаратура XX ст. у перакладах на англійскую мову» ў Нью-Ёркскім універсітэце (ЗША), а таксама ўніверсітэце Вікторыі (Канада). У гутарцы з карэспандэнтам «Кніжнага свету» Сі Чуань распавядае пра асаблівасці ўспрымання паэтычных перакладаў кітайскімі чытачамі, разважае пра грашовыя перспектывы працы паэта і нават на некаторы час становіцца прадказальнікам.**

**— Напэўна, каб быць адкрывальнікам сусветнай паэзіі для кітайскага чытача, трэба шмат часу праводзіць у падарожжах, актыўна кантактаваць з замежнымі калегамі?**

— Сапраўды, мне вельмі падабаецца шмат падарожнічаць. Але, на жаль, у Беларусі я ўпершыню. Я таксама ніколі не быў у Расіі. Гэта мой першы візіт у гэты рэгіён. Калі я знаходжуся ў іншай краіне, то наведваю шмат публічных чытанняў, заводжу сяброў. Таму асабіста знаёмы з некаторымі амерыканскімі і канадскімі паэтамі. На жаль, у мяне няма кнігі вершаў у перакладзе на рускую мову, затое ёсць кніга паэзіі ў перакладзе на англійскую, яна пабачыла свет у адным з самых вядомых выдавецтваў Нью-Ёрка, якое мае назву New Direction, а прадмову да выдання напісаў знаны паэт Гэры Снайдэр. У мяне ёсць сябры-паэты, у гутарках з якімі знаходзіцца шмат прафесійных тэм для абмеркавання. Калі мы разважаем пра паэзію, то можам вельмі моцна заглыбіцца: разглядаць адметнасці стылю, тэмы, розныя аспекты напісання вершаў. У мяне таксама шмат сяброў у Індыі. Я бываў там некалькі разоў. У гэтай краіне вельмі значныя мысліцелі, раманісты, паэты. А не так даўно ў адным з інтэрнэт-часопісаў Нью-Дэлі было апублікавана вельмі вялікае інтэрв'ю са мной (распавядаў пра сябе, свае думкі пра развіццё кітайскага грамадства).

> *Мне падаецца, што ў кожным грамадстве павінна быць 2-3 паэты, чыя творчасць сапраўды эксперыментальная. Яны робяць дзіўныя, вар'яцкія рэчы, стараюцца зламаць межы, стварыць не зусім новую паэзію, але новы тып тэкстаў, напісаць па-новаму. Я чакаю сустрэчы менавіта з такімі творцамі ў Беларусі. І ўпэўнены, што знайду сабе тут сяброў.*

**— Каго можаце назваць свамі самымі любімымі паэтамі, чые вершы вам асабліва цікава чытаць і перакладаць?**

— Я шмат чытаю амерыканскай, англійскай, іспанскай, рускай, французскай паэзіі. Мне сапраўды цікава будзе пазнаёміцца з беларускімі творцамі. Перакладаю таксама шмат: не так даўно я апублікаваў пяць кніг перакладаў. Адна з іх — мемуары польскага пісьменніка Чэслава Мілаша. А летась на кітайскую мову была перакладзена кніга выбраных эсэ Бродскага «Менш, чым адзін», якую назвалі адным з самых значных перакладных выданняў года.

**— А як наконт рускіх паэтаў? Перакладаеце іх на кітайскую мову?**

— Не магу сказаць, што рускія паэты сёння надзвычай папулярныя ў Кітаі, але быў перыяд, калі наш народ спрабаваў зразумець, асэнсаваць уласны сацыялізм, мы чыталі шмат рускіх паэтаў і пісьменнікаў: Пастарнака, Мандэльштама, Ахматаву, з маладзейшага пакалення — Вазнясенскага. Мы ведаем нешта пра Еўтушэнку. Менавіта ў той час многа твораў рускіх аўтараў было перакладзена на кітайскую. Магчыма, у гэтым пераліку былі і беларускія творцы, іх маглі ўключыць у анталогіі вершаў аўтараў з Савецкага Саюза, але па тэкстах мы не здольныя былі дакладна вызначыць: яны рускія ці беларусы. Але ў той жа час думаю, кітайскія аўтары і цяпер сапраўды зацікаўленыя тым, пра што пішуць на постсавецкай прасторы, іх цікавіць перадусім творчы вопыт.

**— Ці складана прадстаўляць новага паэта кітайскаму чытачу?**

— Цяпер у Кітаі выдаецца многа кніг перакладаў паэзіі, і мы наладжваем усё больш і больш сувязей з замежнымі творцамі. Да прыкладу, не так даўно кітайскай публіцы я прадставіў паэта Томажа Шаламуна з маленькай еўрапейскай краіны Славенія. Я быў першым, хто запрасіў яго ў Кітай. Мы сустрэліся ў ЗША, я зразумеў, што перада мной вельмі важны творца, і запытаўся, ці зацікаўлены ён у тым, каб наведаць Кітай. І вось, некалькі гадоў таму ён пабываў у нашай краіне. Выйшлі і дзве кнігі яго вершаў у маім перакладзе на кітайскую мову. Магчыма, у будучыні некаторыя беларускія паэты будуць такім жа чынам прадстаўленыя кітайскаму чытачу. Гэта нескладаны працэс. Мне вельмі цікава, я гатовы шукаць матэрыял для новых анталогій, а ў часопісе «Сучасная міжнародная паэзія» мы зацікаўленыя ў новых аўтарах, творах. Таму для мяне і маіх сяброў так важна наведваць розныя мясціны, знаёміцца з новымі паэтамі, і мы заўсёды гатовыя прадставіць творцаў кітайскаму чытачу.

**— Ці адчуваеце, што новыя твары ў паэзіі на кітайскім рынку нейкім чынам спаборнічаюць з айчыннымі творцамі за ўвагу чытача?**

— У цэлым, маладая кітайская паэзія можа быць падзеленая на некалькі плыняў і густаў. Некаторыя ўсё яшчэ спрабуюць пісаць у старажытным стылі, захоўваючы метры, рыфмы. У нас ёсць вельмі доўгая традыцыя напісання вершаў у такім стылі. Я не думаю, што аўтарам, якія ўсё яшчэ пішуць у старажытным стылі, а таксама іх прыхільнікам цікавая замежная літаратура. Сярод паэтаў, хто піша не на класічнай, але на народнай, сучаснай кітайскай мове, таксама наўрад ці знойдзецца многа асоб, якія захочуць прачытаць творы нейкага замежнага аўтара. Яны больш зацікаўленыя ў тым, каб чытаць пра сябе, знаёміцца з гісторыямі пра мясцовае жыццё. Варта памятаць, што ў нашай краіне вельмі многа сельскіх жыхароў, і людзі, якія жывуць у вёсках, таксама хутчэй захочуць чытаць пра сябе.

Але існуе і іншая група чытачоў. Менавіта на іх мы з калегамі арыентуемся ў сваёй працы. Яшчэ з 1980-х у Кітаі развіваецца цэлы рух маладых паэтаў, якія імкнуцца пісаць па-новаму. Вось такія людзі, таксама як і моладзь з гарадоў, заўсёды гатовыя атрымаць новую інфармацыю са свету за межамі краіны. Працэс урбанізацыі ўсё яшчэ актыўна адбываецца ў Кітаі. Трэба ўлічваць, што ў розных мясцінах людзі маюць розныя густы, увага скіраваная на розныя аб'екты і мэты.

**— Вы ўжо казалі, што фактычна нічога не ведаеце пра беларускую паэзію. Пабыўшы некалькі дзён у нашым горадзе, крыху ведаючы творцаў з Польшчы, Расіі, ці можаце нейкім чынам прадказаць, якія яны, сучасныя беларускія вершы?**

— Так, я нешта ведаю пра рускую паэзію. Я таксама знаёмы з некаторымі паэтамі з Сербіі, Малдовы і Славеніі, думаецца, што можна пабачыць нейкія агульныя рысы ў творчасці паэтаў з гэтага рэгіёна. Але насамрэч у мяне да вас больш пытанняў, чым, магчыма, у вас да мяне… Адчуваю, што творцы з Беларусі пішуць адрозна ад расійскіх калег, але думаю таксама, што нейкія сувязі паміж літаратурамі быць павінны. Я таксама ведаю, што ва Усходняй Еўропе паэты рабілі шмат эксперыментаў над формай і стылем, творцы з Чэхіі і Польшчы шмат пісалі пра ўсё, што адбываецца ў іх жыцці. Не думаю, што ў беларускай паэзіі будуць нейкія смелыя эксперыменты. Але ў той жа час спадзяюся, што змагу прачытаць нешта сапраўды дзіўнае.

Вось, да прыкладу, у Кітаі, калі паэт не лічыць сябе эксперыментатарам, ён будзе пісаць на жыццёвыя тэмы: штодзённасць, сум, гора, каханне, страту кахання, адносіны з іншымі людзьмі, пра прыроду. Але мне падаецца, што ў кожным грамадстве павінна быць 2-3 паэты, чыя творчасць сапраўды эксперыментальная. Яны робяць дзіўныя, вар'яцкія рэчы, стараюцца зламаць межы, стварыць не зусім новую паэзію, але новы тып тэкстаў, напісаць па-новаму. Я чакаю сустрэчы менавіта з такімі творцамі ў Беларусі. І я ўпэўнены, што знайду сабе тут сяброў.

> *Магчыма, у будучыні некаторыя беларускія паэты будуць прадстаўленыя кітайскаму чытачу. Гэта нескладаны працэс. Мне вельмі цікава, я гатовы шукаць матэрыял для новых анталогій, а ў часопісе «Сучасная міжнародная паэзія» мы зацікаўленыя ў новых аўтарах, творах. Таму для мяне і маіх сяброў так важна наведваць розныя мясціны, знаёміцца з новымі паэтамі, і мы заўсёды гатовыя прадставіць творцаў кітайскаму чытачу.*

**— Паэты ў Беларусі, ды і ў іншых краінах часта сутыкаюцца з матэрыяльным аспектам існавання, шукаюць розныя шляхі, каб зарабіць грошы. А ці можна ў Кітаі зарабіць на жыццё, працуючы толькі ў літаратуры?**

— Калі вы аўтар бестселераў і пішаце пра штодзённае жыццё моладзі, каханне, пакуты маладых людзей; ці калі вы распавядаеце пра падарожжы ў часе, то вашы кнігі могуць падацца цікавымі многім людзям, вы здолееце прадаць шмат асобнікаў і зарабіць шмат грошай. Яшчэ большым прыбытак стане, калі кніга будзе экранізаваная. Аўтару бестселераў прасцей стаць паспяховым. Але мяне такая літаратура не цікавіць. Мне важны працэс мыслення, ідэі, шлях мыслення, нешта філасофскае, гістарычнае. І я ведаю, што ў любым выпадку кніга паэзіі бестселерам не стане. Паэт піша толькі для сваіх калег. Адзіны варыянт жыцця такога творцы: ты пішаш нешта дзіўнае, едзеш у іншы горад і сустракаешся з іншым дзіўным чалавекам, які мае падобныя ж тэксты. Прыгадваюцца словы Габрыеля Гарсія Маркеса, які пісаў, што для пісьменніка найлепшая ўзнагарода — калі мозг, натрэніраваны пісаннем, можа пазнаць іншы мозг, натрэніраваны пісаннем. Гэта сапраўды самая вялікая ўзнагарода, якую мы можам атрымаць.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Гістарыёграф



**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

# Жыццяпіс сталіцы ВКЛ

Напрыканцы 2014 года пабачыла свет кніга «Гісторыя Навагрудка — з глыбінь вякоў да нашых дзён» (Мінск: Белстан, 2014. — 592 с.). Відавочна, напісанне гісторыі горада, які ў айчыннай гістарычнай навуцы лічыцца першай сталіцай Вялікага Княства Літоўскага, задача няпростая. Але аўтарскі калектыў з ёй паспяхова справіўся.

Новае выданне прысвечана 970-годдзю горада. Летапіснае паведамленне пра заснаванне Наваградка ў 1044 годзе выклікае шэраг пытанняў, але факт існавання гарадскога паселішча гэтага часу на наваградскіх узвышшах з'яўляецца бясспрэчным.

Кніга вылучаецца шыкоўным паліграфічным выкананнем. Паралельныя тэксты на беларускай і рускай мовах суправаджаюцца шматлікімі каляровымі ілюстрацыямі і фотаздымкамі.

Гісторыя Наваградка выкладзена ў выглядзе асобных нарысаў, пададзеных у храналагічным парадку. Першы з гэтых тэкстаў прысвечаны дагістарычным помнікам Наваградчыны і змяшчае спіс археалагічных помнікаў раёна і кароткі нарыс гісторыі рэгіёна ад яго засялення чалавекам да сярэдзіны I тысячагоддзя нашай эры (аўтар — В. Л. Лакіза).

У наступным нарысе «Станаўленне сярэднявечнага Новагародка» пераважна разглядаюцца пытанні археалагічнага вывучэння горада (аўтары — Т. С. Бубенка і А. А. Мяцельскі). Дзіўна, але гэты раздзел адносна слаба ілюстраваны — багатыя і прэзентабельныя калекцыі ж былі сабраныя за гады раскопак горада.

Упрыгажэнне кнігі — нарыс «Навагародак у перыяд Вялікага Княства Літоўскага і ў складзе Рэчы Паспалітай» (аўтары — В. Ф. Голубеў, А. Б. Доўнар, А. У. Мацук, А. А. Радаман). У ім прыводзяцца шматлікія архіўныя дакументы па гісторыі горада, якія суправаджаюцца багатым і разнастайным ілюстрацыйным матэрыялам.

Разам з тым не ўсе раздзелы новага выдання заслугоўваюць аднолькава высокай адзнакі. Так, нарыс «Навагрудак у міжваенны перыяд» (аўтары — В. В. Даніловіч і К. С. Разуванава) фактычна ўяўляе сабой пералік статыстычных дадзеных пра горад і шматлікія звесткі пра дзейнасць беларускіх палітычных арганізацый. На гэтым фоне неяк губляецца разуменне ролі Наваградка ў жыцці міжваеннай Польшчы, пры тым, што горад быў цэнтрам аднаго з ваяводстваў. Апроч таго, з-пад увагі аўтараў цалкам выпаў насычаны падзеямі перыяд паміж уключэннем Заходняй Беларусі ў склад БССР і нападам Германіі на Савецкі Саюз.

Аднак агульнае ўражанне ад кнігі самае станоўчае. Пагартаўшы старонкі, зноў хочацца наведацца ў гэты горад, каб яшчэ раз дакрануцца да старажытных замкавых муроў і наталіцца духам загадкавага сярэднявечча. Думаю, што такое жаданне з'явіцца не толькі ў мяне. І гэта будзе самай лепшай рэцэнзіяй на новае выданне.

# Кансерватары і хуліганы

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 2.**

Якасць тэксту вызначыць вельмі проста. Калі нехта піша раман, то ў яго творы павінен быць сюжэт, раскрывацца характары, мова твора мусіць адрозніваецца ад, да прыкладу, мовы газет. Павінны выкарыстоўвацца розныя стылі, адценні, сродкі выразнасці… Гэта ўсё элементарна. Але чамусьці некаторыя думаюць, што калі яны маюць блог ці старонку ў сацыяльных сетках, то ўжо могуць напісаць раман. Гэта філалагічны падыход. Але ёсць і іншы абсалютна беспамылковы метад: добрая літаратура «зацягвае». Калі ты пачаў чытаць добрую кнігу, то пасля першай главы ўжо не адкладзеш яе. І чалавек, які чытае добрыя кнігі, ніколі не купіцца на абклеенныя прэміямі халтуры.

**— Нашы крытыкі часта спрачаюцца пра тое, ці патрэбна пісаць разгромныя рэцэнзіі на кепскія кнігі або такія выданні лепш ігнараваць. Агульнага меркавання пакуль няма. Як лічыце вы?**

— Ёсць такое выказванне: добрая кніга робіць чалавека лепшым. Але часта забываюцца дадаць працяг: кепская кніга робіць чалавека горшым. І пускаць у сябе кепскую кнігу — тое самае, што есці сапсаваныя, пратэрмінаваныя прадукты. Гэта небяспечна. Тым больш што за сваё жыццё чалавек прачытвае вельмі мала кніг. Калі палічыць, то адзінкі, якія чытаюць па кнізе на дзень, могуць адолець 12 тысяч твораў (звычайна ж чытаецца адна кніга на тыдзень — і ў выніку мы маем лічбу 2 тысячы). Гэта не так шмат. Калі палова з іх будзе кепскімі, то нічога карыснага такое чытанне чалавеку не прынясе. Натуральна, пра ўсе дрэнныя кнігі пісаць няма сэнсу, але пра тыя выданні, якія па розных прычынах рэкламуюцца і раскручваюцца, варта казаць, каб не адбывалася працэсу стварэння лжэаўтарытэтаў. У нас ёсць адмысловая рубрыка «Тыя, хто спявае ў дзядоўніку», дзе вопытны, філалагічна адукаваны рэцэнзент проста тлумачыць, чаму той ці іншы папулярны, разрэкламаваны раман чытаць няварта.

**— А ці часта вы атрымліваеце водгукі ад чытачоў? Ці ёсць рэакцыя саміх аўтараў?**

— Канечне, чытачы вельмі часта дзякуюць. Аўтары злуюцца, помсцяць нам у сацыяльных сетках. Быў нават выпадак, калі аўтар скарыстаўся службовым становішчам і даслаў нам ліст з абурэннем на афіцыйным бланку Грамадскай палаты.

**— «Литературную газету» я назвала б хутчэй кансерватыўнай, чым наватарскай. У якім кірунку плануеце развівацца?**

— Зараз такі час, калі вельмі здорава быць кансерватыўным. Але мы шукаем новыя шляхі для развіцця. Не так даўно прыдумалі новую палосную рубрыку «Плошча эвалюцыі», якая атрымалася вельмі хуліганская. Яе робіць група маладых паэтаў і празаікаў, ва ўзросце прыкладна 25 гадоў. Я нават памылкі за імі не праўляю. Хай вучацца.

**— Як можаце ацаніць сучасную літаратуру? Ёсць у ёй нешта добрае?**

— Добрае заўсёды ёсць, але, як правіла, праз 10 — 15 гадоў ацэнкі змяняюцца. Сярод тых, хто называўся ў ліку першых падчас перабудовы, амаль нікога не засталося. З зорак пачатку 2000-х таксама на слыху толькі некалькі імёнаў. Узровень літаратуры вызначае толькі час. Кніга можа трапіць у болевую кропку пэўнага перыяду і раскруціцца хутка, але пройдуць гады да таго, як стане вядомая яе сапраўдная вартасць. Калі твор перавыдаецца і яго працягваюць чытаць, то можна смела сцвярджаць, што ён добры. Я нават не вазьмуся прадказваць поспех нейкім аўтарам, бо сам памыляўся ў прагнозах. Класікамі становяцца пісьменнікі, якіх перачытваюць і перавыдаюць.

**— Вы адзначалі, што сёння ўзрастае цікавасць да вялікіх раманаў. А сам раман як жанр адродзіцца?**

— Так, раман ужо адрадзіўся. І выдаўцы сцвярджаюць, што зараз лепш за ўсё прадаюцца тоўстыя кнігі. Відаць, у гэтым зменлівым свеце чытачу хочацца спыніцца і пражыць з героем усё жыццё, каб ведаць, як звалі яго першую каханую, дзе ён вучыўся і кім марыў стаць у дзяцінстве.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Што ў творцаў нашых?

Да мерапрыемстваў XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу актыўна далучыліся сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі. На стэндзе рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі — кнігі самых розных жанраў: паэзія, проза, публіцыстыка, літаратура для дзяцей і падлеткаў…

У гэтай багатай палітры ёсць творы мэтраў айчыннага прыгожага слова і маладых аўтараў на беларускай і рускай мовах, у тым ліку Мікалая Чаргінца («Аперацыя "Кроў"»), Алеся Савіцкага («Обаль», «Цуды на Лысай гары»), Віктара Праўдзіна («Іду насустрач»), Георгія Марчука («Пеўчыя 41-га года») і г. д.

Маладая літаратура прадстаўлена кнігамі серыі выдавецтва «Чатыры чвэрці» «Мінскія маладыя галасы»: паэтычнымі зборнікамі «Сувязь жыццяў» Яны Явіч, «Пульс навальніц» Маргарыты Латышкевіч, «На колькі слоў» Людмілы Клачко, «Мой анёл прысніў мяне» Ганны Чумаковай, «Адчуць гармонію душы» Тацццяны Мацюхінай, калектыўнымі — «Мелодыі світанку» і «Маладзік», а таксама грунтоўным даследаваннем гісторыка Дзяніса Марціновіча «"Донжуанскі спіс" Караткевіча». Ёсць тут і кнігі з серыі «Маладая паэзія Беларусі» (выдавецтва «Харвест»): «У дзённай мітусні» Рагнеда Малахоўскага, «Бэзавае сонца» Марыны Помаз, «Кроплі святла» Надзеі Філон, «4.33» Адама Шостака…

Бадай, найбольш маштабна прадстаўлена серыя «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі»: дылогія Уладзіміра Гніламёдава «Расія», кніга прозы Сяргея Трахімёнка «Родная крывінка», зборнікі паэзіі «Маё лета» Генадзя Пашкова, «У нябёсах вясны» Уладзіміра Мазго, «Час яблыкаў» Мікалая Наменснікава, кніга п'ес-казак для падлеткаў Зінаіды Дудзюк «Канікулы на астэроідзе» ды інш.

Сярод перыядычных выданняў, якія можна пабачыць на стэндзе, — часопіс Саюзнай дзяржавы «Белая Вежа» і альманах «Літаратурная Гомельшчына».

У першы выставачны дзень творцы сталічнага аддзялення яскрава заявілі пра сябе на цэнтральнай пляцоўцы Нацыянальнага стэнда Беларусі: уласныя вершы прадставілі паэтэсы Яна Явіч, Людміла Клачко, Іна Фралова, Анастасія Кузьмічова і барды Ганна Чумакова ды Алена Свечнікава. Пра свой новы гістарычны раман «Пан Кміціч» распавёў празаік Міхаіл Галдзянкоў.

**Арына КРАЙКО**

## Палітра

# Пасмяёмся?

Усміхнуцца і пажартаваць запрашае выстаўка «Мастакі — народ такі!..», якая адкрылася ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі. У экспазіцыі — карыкатуры часопіса «Вожык». Невыпадкова месцам правядзення выстаўкі стала менавіта гэтая ўстанова. Пятрусь Броўка актыўна супрацоўнічаў з выданнем.

Падчас адкрыцця экспазіцыі гучалі жарты ды цікавыя гісторыі. Выступілі мастакі выдання Аляксандр Каршакевіч і Сяргей Волкаў, паэт Ганад Чарказян. Пра гісторыю часопіса распавяла галоўны рэдактар выдання Юлія Зарэцкая. Цяжка пералічыць усіх, хто ў свой час супрацоўнічаў з «Вожыкам». У выданні друкаваліся ўсе айчынныя класікі. Заўсёды шанцавала часопісу і на мастакоў. У падрыхтоўцы нумароў бралі ўдзел выбітныя творцы — Заір Азгур, Анатоль Волкаў, Аскольд Чуркін, Мікалай Гурло, Яўген Бусел, Леанід Чурко, Валянцін Ціхановіч.

Наведвальнікі ўбачаць работы карыкатурыстаў: Алега Папова, Сяргея Волкава, Аляксандра Каршакевіча, Пятра Козіча, Алега Гуцола, Вікенція Пузанкевіча, Паўла Гарадцова, Анатоля Гармазы ды інш. Карыкатуры, прадстаўленыя ў экспазіцыі, — маляўнічыя і яркія, вызначаюцца тонкім гумарам, эфектнасцю. Усім гасцям музея, маленькім і дарослым, гарантаваны добры настрой!

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Ключ да лірыкі

Прэзентацыя новага зборніка паэтэсы, сябра СПБ Вольгі Шпакевіч «Душа-скарбонка» адбылася ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 11.

Імпрэзу аўтарка пачала вершам, які даў назву кнізе. Змешчаны на вокладцы партрэт — работа яе мужа, мастака Васіля Бірука. Спадарыня Вольга звярнула ўвагу прысутных і на змест зборніка, шмат старонак якога прысвечана тэме кахання.

Паэт Мікола Шабовіч, рэдактар кнігі, прыгадаў той час, калі яны з В. Шпакевіч былі студэнтамі Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага і разам наведвалі паэтычны гурток. Зямляк паэтэсы, пісьменнік Анатоль Кудласевіч выканаў пад акампанемент гітары песні, прысвечаныя агульнай радзіме. Паэт і празаік Дзмітрый Пятровіч адзначыў асаблівую напеўнасць, меладычнасць вершаў Вольгі Шпакевіч і прадставіў слухачам «Слованарыхтоўку» — пародыю на адзін з яе вершаў. У аўтарскім выкананні гучалі творы з кнігі «Душа-скарбонка», асобнік якой В. Шпакевіч пакінула ў дар кніжніцы. Цёплыя словы ў адрас аўтаркі падчас вечарыны выказалі таксама паэтэса і публіцыст Ядвіга Рай, паэт-песеннік Іван Ціталвец і празаік Іван Кананові ч.

**Яна ЯВІЧ**

# Умее сэрца спавядацца

Сустрэча з маладой пісьменніцай Аленай Басікірскай «Я сэрцам прысягаю кнізе» адбылася ў межах чарговага пасяджэння паэтычнага клуба «Парнас» у сталічнай публічнай бібліятэцы № 5.

Алену публіцы прадставіў кіраўнік клуба, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. А. Басікірская, ураджэнка Полацка, цяпер жыве і працуе ў Міёрах. Сёлета аўтар зборніка паэзіі і прозы «Споведзь» (Мінск, «Кнігазбор», 2014), заканчвае завочнае аддзяленне факультэта беларускай і рускай філалогіі БДПУ імя Максіма Танка.

Алена Басікірская піша толькі па-беларуску, аддаючы перавагу філасофскай лірыцы. Назву сваёй кнігі яна патлумачыла гледачам радкамі з аднайменнага верша: «Прымі, паэзія, мой верш і мне прабач // За тое, што люблю цябе аддана».

У творчасці А. Басікірскай увасоблены багаты вобразны свет, які нагадвае сакавітую палітру мастака. Верыцца, што мова яе твораў — спеўная, пластычная, жывая — глыбока кране не адну чытацкую душу.

**Яна ЯВІЧ**

**Каб убачыць работы народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стальмашонка, неабавязкова ісці ў музей — дастаткова спусціцца ў метро на станцыі «Маскоўская» і «Плошча Перамогі». Прайшло больш як паўтара гады, як не стала майстра. У памяць пра яго Нацыянальны мастацкі музей прадставіў выстаўку жывапісу і графікі «Летапіс часу».**

# Партрэт як візітная картка



*Партрэт Рыгора Шырмы, музычнага дзеяча, харавога дырыжора. 1968 г.*

Творчая спадчына Уладзіміра Іванавіча ўключае сцэнаграфію, станковы жывапіс, манументальнае мастацтва і графіку. Мастацкая школа — ленінградская, ад традыцый Веры Мухінай і Кірыла Кустодзіева. Манументальныя працы выкананы ў тэхніках сграфіта, фларэнтыйскай мазаікі і вітража. У графіцы — акварэльныя краявіды і малюнкі, дзе яскрава раскрываецца вострая назіральнасць мастака, лёгкасць і тэмпераментнасць выканання.

Чалавек шырокай душы, ён любіў людзей, таму з усіх жанраў аддаваў перавагу партрэту. У. Стэльмашонак — адзін з першых мастакоў-шасцідзясятнікаў, які галоўнымі вобразамі ўласных карцін браў як простых беларусаў, так і прызнаных герояў краіны.

— Раннія жывапісныя працы творцы выкананы ў традыцыйнай рэалістычнай манеры. З 1960-х гг. вобразы набываюць манументальна-дэкаратыўны характар. Актыўна выкарыстоўваецца белы колер і беларускі народны арнамент, у які часам уплятаецца тэкст. Апошнія дваццаць гадоў майстар прысвяціў вывучэнню архіўных матэрыялаў і стварэнню серый партрэтаў і кампазіцый на тэму гістарычнага мінулага Беларусі, — адзначыла мастацтвазнаўца Ірына Назімава.



*«Балгарыя. У гарах Мелніка». 1967 г.*

Акрамя палотнаў, сапраўдныя творы мастацтва — рамы, якімі Уладзімір Іванавіч апраўляў карціны і якія рабіў сам. У пошуках новых сродкаў выразнасці майстар спрабаваў спалучаць жывапіс з разьбой па дрэве, аплікацыяй, калажам — уключаў раму ў вобразнае рашэнне твора. Ніякіх пазалочаных багетаў — толькі прыродны матэрыял!

Падчас адкрыцця выстаўкі «Летапіс часу» адбылася прэзентацыя канверта з маркай РУП «Белпошта», прысвечанай майстру, а таксама прэзентацыя альбома «100 шэдэўраў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь» выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Калі танчыць вецер...

Выстаўка жывапісу айчыннай мастачкі, сябра Беларускага саюза мастакоў Ілоны Касабука «Танец ветру» адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. У экспазіцыі каля трох дзясяткаў палотнаў.

Пейзажы, нацюрморты, жанравыя замалёўкі створаны аўтарам за апошнія пяць гадоў. Эстэтыка японскай гравюры укіё-э (паказ асобных аспектаў паўсядзённасці) і мадэрну спалучаецца тут з традыцыямі еўрапейскай акадэмічнай школы жывапісу, пачуццёвае светаўспрыманне — з унутраным лірызмам, а дынаміка творчай думкі — з завершанасцю і дакладнасцю формы і зместу.

За немудрагелістымі на першы погляд сюжэтамі хаваюцца высокае майстэрства кампазіцыі, экспрэсія мазка і вытанчанасць ліній, імкненне да медытатыўнасці і сузіральнасці, здольнасць бачыць у малым глабальнае. Аўтарскі погляд адлюстроўвае філасофскую канцэпцыю японскага выяўленчага мастацтва, у прыватнасці жывапісу: прырода тут успрымаецца як чарадзейны, сакральны, гарманічны свет. У той жа час манера пісьма Ілоны Касабука вылучаецца манахромнасцю фактуры і дынамічнасцю.



*«Сонечны дзень на пачатку кастрычніка». 2013 г.*



*«Дрэва манга». 2015 г.*

На думку намесніка старшыні БСМ Леаніда Хобатава, творчасць І. Касабука — новая праява фігуратыўнага мастацтва. З адкрыццём выстаўкі спадарыню Ілону павіншавалі старшыня творчага аб'яднання «Верасень» Ніна Марчанка, мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн, куратар выстаўкі Наталля Сяліцкая.

Назву «Танец ветру», сугучную з назвай рамана Харукі Муракамі «Слухай песню ветру», І. Касабука абрала для выстаўкі невыпадкова: танцу здаўна надавалася значэнне магічнага рытуала, а жыхары сярэднявечнай Японіі такім чынам улагоджвалі цмока Інлуна — уладара з'яў прыроды.

У палотнах гэтай экспазіцыі («Сонечны дзень», «Партрэт дома на фоне восені», «Апошнія хрызантэмы такія мілыя», «Сон японскай лялькі», «Белыя ракавінкі ўспамінаў» ды інш.) якраз і прасочваецца ствральны пачатак: аўтарка ўвасабляе танец ветру, здольны ўраўнаважыць сілы прыроды і ўсталяваць у свеце гармонію. Глядач цалкам пагружаецца ў дзівосную атмасферу твораў мастачкі, апынаючыся ці то ў цені квітнеючай сакуры, ці то ў фантастычным свеце Муракамі…

А вецер умее не толькі танчыць. Ён яшчэ і спявае.

**Яна ЯВІЧ**

**Даведка «ЛіМа»**

Ілона Касабука нарадзілася ў Мінску. Скончыла Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве (цяпер — гімназія-каледж мастацтваў імя І. Ахрэмчыка), затым — Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (цяпер — Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Сябра Міжнароднага аб'яднання мастакоў (Парыж) і творчага аб'яднання «Верасень». Працуе ў галіне станковага і манументальнага жывапісу, стылістыкі інтэр'ера і дэкарыравання прасторы. Пастаянны ўдзельнік рэспубліканскіх і міжнародных выставак ды пленэраў у Беларусі, Германіі, Кітаі, Польшчы, Расіі, Францыі ды іншых краінах. Аўтар персанальных выставак і праектаў у нашай краіне і за мяжой. Творы знаходзяцца ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь і Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, мастацкіх музеяў г. Варна (Балгарыя) і г. Шарджы (ААЭ), у калекцыях «Deutsche Bank» і канцэрна «Liebherr» (Германія) ды прыватных зборах.

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2257.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 12.02.2015 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1458 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686